PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 1 (1860) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 5 СТУДЗЕНЯ 1991 г. ЦАНА 1500 зл.



*Скульптура на італьянскім панадворку Экзархата.*

# НА КАЛІДОРАХ ЭКЗАРХАТА

Пабудова будынка Беларускага экзархальнага ўпраўлення ў Менску цягнулася пяць гадоў — закончылася ў 1985. У выніку захадаў мітрапаліта Філарэта беларускі ўрад выдзяліў дзеля гэтай пабудовы невялікую пляцоўку, але затое ў самым цэнтры горада. Беларускі ўрад даў таксама матэрыял, з якога пабудавана сядзібу Экзархата. Галоўны архітэктар распланаваў будынак на тры паверхі: першы — канцылярыя мітрапаліта і ўся адміністрацыя, другі — зала пасяджэнняў і прыёмная, трэці — памяшканні мітрапаліта. Усярэдзіне — італьянскі панадворак.

У сядзібе Беларускага экзархальнага ўпраўлення знаходзіцца рэдакцыя „Весніка Беларускага Экзархата". Рэдакцыйны калектыў — аднаасабовы. **Андрэй Петрашкевіч**, адказны за выданне рэдактар, адно з дапамогаю камп'ютэра і лазернага прынтэра, сам выконвае ўсю рэдакцыйную працу. Звярнуўся я да яго з пытаннем пра выдавецкую дзейнасць Царквы ў Беларусі.

— Пачатак палітычных пераменаў у нашай краіне, — расказваў мне, — не адразу ж пацягнуў за сабою змякчэнне палітыкі дзяржавы ў адносінах да Царквы. Але ў Беларусі, дзе пад канец васьмідзесятых Праваслаўная царква прадстаўляла сабою адну абшырную епархію, перамены наспявалі заўважальна.

Паўгода пасля святкаванняў 1000-годдзя Хрышчэння Русі, у студзені 1989 года, адрадзілі мы наша традыцыйнае выданне — часопіс „Менскія Епархіяльныя Навіны". Епархіяльная перыёдыка — гэта, агульна кажучы, неад'емная частка дзейнасці кожнага епіскапства. Сягоння, бачачы як адраджаюцца, ці ўзнікаюць новыя епархіяльныя выданні, мы пераконваемся ў такім сцвярджэнні.

Царкоўнае жыццё ў рэспубліцы стрымгалоў развіваецца. Праваслаўная царква ў Беларусі набыла статус экзархата. У студзені 1990 года, рашэннем Сінода Беларускай Праваслаўнай царквы, пачаў выходзіць новы часопіс — „Веснік Беларускага Экзархата". У той час магчымасці Менскай мітраполіі былі, на жаль, недастатковыя дзеля таго, каб выдаваць два часопісы адначасна. Выпуск „Навінаў" спыніўся да паловы 1991 года.

Адроджаныя ў рэспубліцы епархіі пачалі выдаваць сваю перыёдыку — сягоння выходзяць ужо ў свет не толькі „Менскія Епархіяльныя Навіны", але і „Магілёўскія", „Гомельскія", газета „Наша Праваслаўе" ў Полацкай епархіі. Хочацца тут звярнуць увагу на прынцып публікацыі ў адным выданні тэкстаў як на рускай, так і на беларускай мове. Паколькі ў „Менскіх Епархіяльных Навінах" гэтае двухмоўе было ўсяго эксперыментам, то ў „Весніку Беларускага Экзархата" яно ўжо прытарнавана як прынцып. Беларускія тэксты ў „Весніку" публікуюцца, калі аўтар так жадае, з захаваннем асаблівасцяў старой арфаграфіі.

У чэрвені 1990 года, на базісе рэдакцыі „Весніка", быў створаны Выдавецкі аддзел Беларускай Праваслаўнай царквы, які ўзначаліў епіскап Полацкі і Віцебскі Дзмітрый. Гэтая новая структура пачала сваю дзейнасць з серыі кніжак пад агульным загалоўкам „Бібліятэка Весніка Беларускага Экзархата". Першы яе выпуск „Асновы праваслаўнай веры" накіраваны быў да тых, хто прымае тайну хросту — разышоўся ў месяц-два.

Першай сур'ёзнай верыфікацыяй сталасці Выдавецкага аддзела стаў выпуск унікальнай па свайму характары кнігі „Евангелле паводле Матфея". Тэкст першай кнігі Новага Запавету быў паралельна выдадзены на чатырох мовах: грэцкай, царкоўнаславянскай, рускай і беларускай. Беларускае выданне — першы ў гісторыі нашага народа саборны царкоўны пераклад Святога Пісання. Зрабіла яго Беларуская біблейская камісія. Чатырнаццаць спробаў перакладу розных кніг Біблії і літургічных тэкстаў на беларускую мову, якія рабіліся ў мінулыя стагоддзі

( Працяг на стар. 5 )

## ДА РОДНЫХ

**Дарагія Сёстры і Браты!**

На нашых вачах пагоршваецца наша жыццё. Яшчэ некалькі гадоў таму назад здавалася, што гэта ўсё зменіцца на лепшае і што тыя клопаты і праблемы, якія так часта выступалі ў нашым жыцці ў перыяд так званага рэальнага сацыялізму прападуць і штодзённы побыт пачне выпаўняцца новым лепшым зместам. Так аднак не сталася ані ў пенсіях, ані ў медыцынскай апецы, ані ў школьніцтве, ані ў цэнах на сялянскія прадукты, ані на рынку працы. Сітуацыя не толькі не палепшылася, але радыкальна пагоршылася. Многім людзям рэальная бяда пачала інтэнсіўна заглядаць у вочы. І кожны з нас пытае, які будзе новы наступаючы год? Ці не будзе яшчэ горш чым сёння? Некаторым здаецца, што выхад у тым, каб вярнуцца да таго, што было калісьці. Многія знаёмыя з вёсак гавораць: „Хай аддадуць уладу Ракоўскаму і будзе зноў добра". Той, хто так гаворыць памыляецца. Ужо няма звароту да мінулага. І ніякі палітык з мінулай фармацыі не можа сфармаваць шчаслівую сучаснасць ці будучыню. Развал старой сістэмы мае татальны характар і ніхто яго паўстрымаць не можа. Я сам належу да таго пакалення, якое вельмі многа скарыстала з пасляваеннай польскай рэчаіснасці. Бясплатная навука, атрыманне прафесіі і прэстыжнай працы і кватэры ў Варшаве. Усё гэта так для мяне, сына беднай вёскі, было велізарным дасягненнем. За ўсё гэта не магу не быць удзячны мінулай сістэме. Аднак тая сістэма ўжо не вернецца і таму няма сэнсу траціць энергію на разважанні аб яе добрых баках. Тым болей, што і дрэнных бакоў было у ёй нямала.

Беларусы! Стоячы на парозе новага года павінны мы глядзець з надзеяй на ўвесь беларускі народ, які пасля многавяковай

( Працяг на стар. 8 )

*Спакойнага і радаснага*

*Раджаства Хрыстова*

*ўсім чытачам жадае „Ніва"*



НА МЯЖЫ

## ПРЫВІД КАТАСТРОФЫ ЦІ ЎЗЛЁТУ?

### Частка І

Беларусь акружаюць сільныя валявыя нацыі: палякі, літоўцы, рускія, украінцы. Цяжка сказаць, але хіба пад іх націскам беларусы зрабіліся такімі слабымі. Так ці інакш уступаем мы рашуча ўсім нашым суседзям па дынаміцы і размерах таго пачуцця, якое называецца патрыятызмам ці нацыяналізмам. Калі разабрацца, дык няма ў нас першага не гаворачы ўжо аб другім. У такой сітуацыі сільнейшым духоўна суседзям вельмі лёгка ўплываць на нас, падпарадкоўваць нас сабе і скарыстоўваць нас для сваіх эгаістычных інтарэсаў. Вельмі часта ў Беларусі чуў я думку аб тым, што хто як хто, але прынамсі беларускія пісьменнікі з'яўляюцца паслядоўнымі носьбітамі беларускага патрыятызму, а нават нацыяналізму. Ацэнка такая абсалютна фальшывая. Я не сустрэў ніводнага беларускага пісьменніка, якога ўсе члены сям'і паслядоўна паслугоўваліся б беларускай мовай і няма ў Беларусі ніводнага беларускага „нацыяналіста", які б меў у сваёй бібліятэцы болей кніжак беларускіх чым рускіх. Зразумела, што тэзіс аб беларускім нацыяналізме прыдуманы галоўным чынам рускімі, якія былі на працягу многіх стагоддзяў усеўладнымі панамі на Беларусі. Тэзіс гэты ахвотна перанялі рэнегацка настроеныя беларусы і на працягу дзесяткаў гадоў злоўжывалі ім у адносінах да беларускіх патрыётаў. Сказанае мною адносіцца, на жаль, да традыцыйным мысленнем выступае ў многіх і сёння. Многія з нас зжыліся з думкай, што Беларусь мусіць быць залежнай і падпарадкаванай, і што яна няздольная кіравацца ўласным розумам, уласным талентам, уласнай працавітасцю і жыць незалежным жыццём. Усё яшчэ не мае да нас доступу як жа элементарнае і лагічнае меркаванне аб тым, што кожны народ сябе выкарміць і выжыве, і што для гэтага непатрэбныя яму ніякія апекуны, якія пад німбам

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

тупалобых чыноўнікаў, вайскоўцаў ці партыйных дзеячоў. На жаль, сярод тых, хто ахвотна фармуляваў свае пагардлівыя адносіны да людзей з незалежніцкімі беларускімі тэндэнцыямі знаходзіліся неадпойчы і светлыя высокаадукаваныя беларускія розумы. Такім чалавекам быў між іншым, выдатны вучоны акадэмік Яўфім Карскі, які ніяк не мог ператравіць думкі аб незалежнасці Беларусі і яе існаванні па-за рамкамі шчыльнага саюза з Расіяй. Знявечанне адвечным высакароднасці і альтруізму хаваюць сваю подласць і эгаізм. Здаецца мне, што самая вялікая подласць суседзяў у адносінах да нашага народа заключаецца ў тым, што адабралі ў яго ахвоту быць самім сабою і што зашчапілі яму ахвоту быць падобным да іх або яшчэ горш, поўнасцю атаясамлівацца з імі. На жаль, гэты ганебны працэс прадаўжаецца і сёння. На ўсходзе Беларусі вядзецца зараз акцыя збору подпісаў для падтрымання ідэі далучэння ўсходніх раёнаў Беларусі да Расіі, а ў заходніх частках Беларусі каталіцкі касцёл, аднаізначна атаясамліваючыся з польскасцю і Польшчай, робіць усё, каб усіх католікаў пераканаць аб іх кроўнай прыналежнасці не да беларускай, а толькі да польскай нацыі. Прабеларуская пастава ў гэтай справе ксяндза У. Чарняўскага з Вішнева не змяняе агульнай сітуацыі згодна з прыказкай, што адна ластаўка не выклікае вясны.

На беларускай зямлі жыве нямала рускіх, палякаў і іншых нацыянальнасцей і зразумела, што ўсе яны павінны мець поўнае свабоднае права на развіццё сваёй культуры і сваёй мовы. Гэта аднак не значыць, што могуць сёння рэалізавацца адвечныя недарэчлівыя, агістарычныя і антынавуковыя тэндэнцыі, паводле якіх праваслаўны беларус гэта рускі, а беларус-католік гэта паляк. Прымяненне гэтых недарэчлівых прынцыпаў ужо давяло да катастрафальнага духоўнага стану беларускую нацыю. На жаль, многія сімптомы сведчаць аб тым, што гэты працэс будзе прадаўжацца і тым самым пашыраць нашу катастрофу.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

***

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

23 снежня Сейм выбраў новы ўрад, запрапанаваны прэм'ер-міністрам **Янам Альшэўскім**. У новым урадзе апынуліся два міністры з кабінета **Я. К. Бялецкага (К. Скубішэўскі і А. Гляпінскі)**. Чатыры міністры належаць да Пагаднення Цэнтр, трох — да Хрысціянска-нацыянальнага аб'яднання, два — да Краёвага грамадзянскага камітэта і сялянскай „Салідарнасці", восем — беспартыйныя. Міністрам культурты назначаны **Анджэй Сіцінскі** — сацыёлаг з ПАН, член Краёвага грамадзянскага камітэта.

**Сейм выбраў 21 пастаянную камісію.** Камісію нацыянальных меншасцей узначаліў **Ян Пянткоўскі**, член Хрысціянска-нацыянальнага аб'яднання.

**Вярхоўны Савет Расіі** ратыфікаваў пагадненне аб стварэнні Супольнасці Незалежных Дзяржаў, якое 8 снежня падпісалі правадыры Расіі, Украіны і Беларусі. Парламент Расіі дэнансаваў таксама дагавор з 1922 г. аб стварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

**У сераду** (25 снежня) у 19 гадзін па маскоўскаму часу ў тэлевізійным выступленні **Міхаіл Гарбачоў** заявіў аб дымісіі з паста прэзідэнта СССР. „Пакідаю свой пост з боязню, але і з надзеяй у вашу мудрасць і сілу духа", — сказаў сваім суайчыннікам першы і апошні прэзідэнт СССР, які дабавіў, што хаця далей лічыць немэтазгодным ліквідацыю СССР, то зробіць усё, каб спрыяць існаванню Супольнасці Незалежных Дзяржаў.

**У чацвер** (26 снежня) пасля дымісіі **Міхаіла Гарбачова** Польшча заявіла, што прызнае як дзяржавы ўсе 11 рэспублік, якія ўваходзяць у састаў Супольнасці Незалежных Дзяржаў і выказала гатоўнасць наладзіць з імі дыпламатычныя зносіны.

**Польскае беларусазнаўчае таварыства і Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта** арганізавалі канферэнцыю, прысвечаную 100-ай гадавіне з дня нараджэння **Максіма Багдановіча**. У канферэнцыі прынялі ўдзел вучоныя з Польшчы і Беларусі.

**На Аддзяленні Усходнеславянскіх філалогій Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку** адбылася сустрэча з загадчыкам Кафедры мовазнаўства Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы **Паўлам Сцяцко**. У час спаткання абмяркоўваліся пытанні супрацоўніцтва між мовазнаўцамі Беластока і Гродна.

**Рэдакцыя „Газеты Вспулчэснай"** арганізавала рэдакцыйную дыскусію, прысвечаную пытанням беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Удзельнічалі ў ёй між іншым, **Валянціна Ласкевіч, Віктар Стахвюк, Сакрат Яновіч і Багдан Скарадзінскі** як мадэратар.

**Адбыўся IV З'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў.** Старшынёю БАСу выбрана **Барбара Кучынская**.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### КАЛЯДНЫ ПАДАРУНАК БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ

Напярэдадні каталіцкіх Каляд парламент Беларусі прыняў нарэшце Закон аб святочных днях у рэспубліцы.

Зараз святочнымі (нерабочымі) днямі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца: 1 студзеня — Новы год, 7 студзеня — праваслаўныя Каляды, 8 сакавіка — Дзень жанчын, Вялікдзень (па календары праваслаўнай і каталіцкай канфесіі) — дзень першы і другі, Радаўніца, 1 мая — Свята працы, 9 мая — Дзень Перамогі, 27 ліпеня — Дзень незалежнасці, 2 лістапада — Дзень памяці, 25 снежня — каталіцкія Каляды.

Парадак святкавання рэлігійных свят вернікаў іншых канфесій Вярхоўны Савет Беларусі даручыў вызначыць ураду рэспублікі да 1 студзеня наступнага года.

Акрамя таго парламент Беларусі забараніў ураду рэспублікі абвяшчаць нядзелю ў парадку замены рабочым днём.

І яшчэ адна акалічнасць. Вярхоўны Савет Беларусі так і не адважыўся прызнаць святочным днём 25 сакавіка — нараджэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. Суцяшае хіба толькі і тое, што мы больш не будзем святкаваць гадавіны бальшавіцкага перавароту — 7 і 8 лістапада.

### НА БЕЛАРУСІ БОГ ВАЙНЫ ЖЫВЕ

Згодна інфармацыі Беларускага згуртавання вайскоўцаў, каля 10 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі (прыкладна 20 тысяч квадратных кіламетраў) сёння знаходзіцца пад палігонамі.

### БЕЛАРУСЬ — РАДЗІМА „МАРСКІХ ВАЎКОЎ"

Паводле звестак парламенцкай апазіцыі БНФ каля 70 працэнтаў маракоў-афіцэраў і мічманаў Савецкіх узброеных сіл — ураджэнцы Беларусі.

Дарэчы, апазіцыя ўжо прапаноўвала вынесці на разгляд восьмай нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, якая праходзіць зараз у Менску, пытанне аб стварэнні марскога міністэрства ў Беларусі. Аднак большасць дэпутатаў адхіліла гэтую прапанову.

### ЗА НАШУ І ВАШУ ВОЛЮ

Віцэ-консул Генеральнага консульства Рэспублікі Польшча Кшыштоф Длужэўскі ўручыў жыхару пасёлка Воранава Гродзенскай вобласці, былому жаўнеру Войска Польскага Браніславу Міхневічу сярэбраны крыж „Віртуці мілітары" і памятны медаль „За ўдзел у абарончай вайне 1939 года".

Вышэйшы знак салдацкай славы — сярэбраны крыж „Віртуці мілітары" Браніслаў Міхневіч атрымаў за абарону легендарнага паўвострава Вестэрплатэ.

### ДЗЯКУЙ, КАМПАРТЫЯ!

У рэспубліцы пачаўся падзел маёмасці былой кампартыі. Амаль усе партыйныя аб'екты будуць служыць на ніве адукацыі, аховы здароўя, культуры. Так, будынак завочнага факультэта Вышэйшай партыйнай школы ўжо перадана ліцэю пры Беларускім гуманітарна-культурным цэнтры імя Ф. Скарыны.


## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✱ БГКТ у 1992 годзе–размова з кіраўнікамі ГП.
- ✱ Вучоныя з Менска на Беласточчыне.
- ✱ У школе ў Саках.
- ✱ IV З'езд БАСу.
- ✱ Віры і вірыкі.







W nawiązaniu do artykułu „Jaśce ab kartach Biełastoččyny" zamieszczonego w „Nivie" z dnia 1991.11.24, serdecznie dziękuję Panu Wiktarowi Aleksiajukowi za wskazanie błędów i usterek w wydanej przez nas mapie "Park Krajobrazowy Puszczy Knyszyńskiej".

W każdej pracy ludzkiej istnieje prawdopodobieństwo popełnienia błędów.

Przepraszam wszystkich użytkowników mapy za błędy, które znalazły się w jej treści. Zapewniam, że nie było naszym zamiarem ani polonizowanie białoruskich nazw ani wprowadzanie „białych plam" do historii prawosławia na Białostocczyźnie.

Zastępca Głównego Redaktora Wojskowych ZakładówKartograficznych
**mgr Bożena Krężelewska**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 385

## ЮРКА БАЕНА

### НЕПРЫКМЕТНЫЯ

Рашылі не пакідаць нічога,
што прыпамінала б ім даўні час.
Вынеслі ўсё пад тапор:
куфры, сталы, партрэты.

Вецер стукоча аканіцамі душ.
Зелле сцяною закрывае вочы.

Непрыкметныя, з тэатральным „эл",
маюць да адыграння яшчэ
(свядома, або і не)
некалькі галоўных,
вельмі важных,
канкрэтна неназваных роляў —
камічных?
драматычных?
якіх?

### БЕЛАСТОЦКАЯ „СЦЯНА ЎСХОДНЯЯ" 2000 ГОДА

*(варыянт рэалістычны, часткова ўжо рэальны)*

Адракліся крыві сваёй,
зямлі, мовы
і веры.
Кожны схаваны ва ўласнай скуры.
Сляпыя на святло
заснулі ў лабірынтах ночы.

Гавары ты — не гавары,
пішы — не пішы,
прасі — не прасі,
плач — не плач —
прысутныя — як непрысутныя,
ужо неакрэсленыя,
безыменныя.

Галеча жахлівая,
зона маўклівая —

блакітна-зялёныя гоні
Запаветнай Зямлі для чужых.

### У НАШЫМ ДОМЕ

У нашым старым доме
Заўжды было шматлюдна:
Адны жылі ў ім на паверсе,
А мы — заўсёды ўнізе.

Аднойчы штосьці трэснула,
Нешта лопнула —
Ї паляслося рэха
Ад сцен,
Падлог,
Скляпенняў дома.

З той пары ўжо ў снах
Часта з'яўляюцца прывіды:
Быццам нашыя субкватаранты
З паверха,
Як з вяршыняў,
Замест па лесвіцы выходзіць міла,
Прама ідуць
Па нашых спінах...

* * *

У вёсцы маіх прадзедаў
Нехта мяне вітае
Аглядае дзівосным зрокам
Нехта ўсміхаецца
Абдымае рукамі жывымі
Або з-за свету

Ї кожны тады пытае
Ці ведаю хто я

Слухаю імёны і прозвішчы
Незнаёмых дзядоў і бабуляў
Прыглядаюся тварам
Шукаючы падабенстваў сваіх
Ї сяброў з дзяцінства

А ці помніць хто-небудзь
Пытаю
Майго прадзеда Юзьвюка Васілія

Я тут
Здалёку крычыць жаўнер
Засыпаны ў траншэі

## АЛЕСЬ БАРСКІ

### НАДЗЕЯ

Максім Багдановіч,
Максім Багдановіч,
Чаму абарваў Ты напеў
На паўслове?
Цябе добры лёс
Падарыў нечакана
Ї лёс безлітосны
Забраў Цябе рана.
А мы малаверныя
Злыя нашчадкі
У гразь утапталі
Народную мову
Ї да чужынцаў пайшлі
Без аглядкі,
Да здрады народнай
Заўсёды гатовы.
Душу апаганілі,
Гонар стапталі,
Чужынцамі ў краі
Наднёманскім сталі.
Каналі бясследна,
Каналі заўчасна
Па волі чужацкай,
Па волі ўласнай.
Ды ўсё ж такі нехта
З братоў нашых выжыў,
Збярог у душы сваёй
Сорам і гонар.
Ї ён ужо ботаў чужынцам
Не ліжа,
На мове народнай
Публічна гаворыць.
Максіме! Наш Войча,
Максіме-Прароку,
Народ беларускі
Усё ж дачакаўся,
Воля плыве па краіне
Шырока.
Слаўся, Айчына свабодная,
Слаўся!
Ды плачуць яшчэ
Яраслаўны на сценах
Па страце мужоў
Ї сыноў скатаваных.
Немата паўзе
Па краіне гіенай
Немата народа,
Што стаў паўсканаы.
Ды верым, Максіме,
Мы горача верым,
Што прыадкрылі
У сонечнасць дзверы,
Ї занімаем пасад
Між народаў,
Ї смела ідзем у краіну
Свабоды.
Ды многа яшчэ
Перашкод нас чакае
Ї многа каменняў
З-пад ног мы паднімем,
Ды зробім усё
Для свабоднага краю,
Так як зрабіў бы Ты,
Войча, Максіме.

* * *

Трынаццаты пакой
Не ёсць пакой фатальны.
У ім квітнее пачуццё
І ласкі, і кахання,
І верш тут не адзін узрос
І добры, і банальны
У промнях сонца
І ў шэрасці змяркання.
Усё пастаўлю я на адну карту,
Ва банк пайшоў
У гульнях паэтычных.
А што мой верш
Народжаны тут варты?
Няхай адкажа лес жывічны,
Я ж пад яго дыктат
Ствараў іншасказальнасць
І фармаваў радок
Са словаў сіратлівых.
Здаецца, добры ён,
А можа быць фатальны —
Чартапалох здараецца
На ўраджайных нівах.
Мне не патрэбная
Істэрыка, капрызнасць,
Штучнасць камедыі,
Няшчырасць меладрамы.

* * *

Яшчэ раз, яшчэ раз
Прытуліцца
Да пахучай шчакі
Дубровы,
З каўша песні
Удоваль напіцца
Лясной непрыкідлівай
Мовы.
Не варта паглыбляцца
Думаць,
Бо з думак — трывогі і болі,
Бо з паглыбленых думак сумы,
Бязвер'е у сэнс нашай долі.
Паэты — сыны інтуіцыі,
Пачуццяў не заўжды
Разумных —
Патрапяць за глупствы
Пабіцца,
Не абурацца на крыўду
І глумы.
Але ж па людзях
Мы патрапім
Хваліцца дабром і турботай,
Ды лес сваёй моцнаю
Лапай
З нас выганяе дурноты.
Мой лес — мой айцец
Справядлівы,
Сцебані мяне жорсткаю
Дзягай —
Праз болі ідзем у шчаслівасць,
Праз трусасць бяжым у адвагу.

* * *

Кілім травы прыдарожнай
Сумуе няспешна,
Крычаць верасы
Фіялетавым крыкам.
Мне сёння паўгорка,
Мне сёння паўсмешна,
Я па лесе іду —
Ні малы, ні вялікі, —
Закідаю ў кусты
І місійнасць, і гордасць,
І кальчугу пляту
І з іголак, і з шышак,
І хачу апрануць маску
З конскае морды.
Хай рысуюць мяне
Мастак Косак і Шышкін.
Малюю і я твары
Ціхіх пралескаў
Пэндзлікам шчырага
Роднага слова,
І лес ціха іграе
Мне пеаны, бурлескі,
Улівае ў сэрца
Сваю каляровасць.

## САКРАТ ЯНОВІЧ

### ВЫЕЗД У СМУТАК

У ноч з суботы на нядзелю даязджалі мы да першага на ўсход ад Польшчы горада. Не было гэтага відаць па зубарэдкіх агнях у захмураным даляглядзе, але мелася намі добрая, амерыканская, мапа. Наш „Форд" нарэшце выскачыў з беларускай дарогі на нешта даволі шырокае і гладкае; на аўтастрадку... Джэк Іванюк падціснуў газ да ста васьмідзесяці; вялізнымі пацеркамі замільгацелі за шыбінамі слабамоцныя машыны тубыльцаў. Джордж Анісімовіч заўзіраўся ўзад, ці не села нам на хвост нейкая раўня; яго не пакідала шпіёнаманія.

Заставаліся квадрансы, каб дабрацца да базы, што на адной з перыферыяў, дзе начэквалі нас з начлегам. Нельга заблудзіцца ў гэтай заходнерускай сталіцы нерасійскай дзяржавы, валодаючы ненавісцай у ёй беларускай ды экзатычнай англійскай мовамі; напытваючы адрас, маглі ж напароцца на шавіняка кантынентальнай імперыі. Арыенцірам паслужыць пляц з помнікам Чорнаму Чалавеку; за ім — сказалі нам яшчэ перад выездам сюды — узвышаецца мадэрны комплекс, не пабудаваны якраз на Манхэтэне.

Мяне праймаў мінорны настрой. Выгледжваў я цёмныя вёсачкі ў сяк-так асветленай — ужо ў прыгарадзе — паласе таго магістральнага шляху, ціха здзіўлены, што ў іх усё нехта жыве; млява свяцілася ў просценькіх вокнах. Не хацелася ехаць у гэту мацярынскую мне краіну, якой напляваць на дзеці. Падкусіў жа ліхі пакінуць свой дом пад вішняю ў яблыневым садзе, у даліне са старадаўняй мясцінаю, і выперціся з Джэкам ды Джорджам; замануўся ім, вось, рызыкоўны бізнэс. У такую поначь я ж цёпла кладавіўся б спаць у рагавым, блакітным, пакоі, пачытаўшы ў фатэлі, што пад фікусам, кавалак „У палескай глушы" або кніжыцу „Жменя сонечных промняў". Назаўтра ж, для пярэдыху пасля працяглага пісання, заграбаў бы высахлае ў палаццё бабамі пустазелле і паліў бы яго з бульбоўнікам ад скараспейкі (дым малочнага адценку валіў бы ў разбуялы маліннік, што ў нізку).

Размясцілі нас на высокім паверсе жыллёвага корпуса, у акуратнай на першы выгляд кватэры, адкупленай фірмаю на гасцёўню. Як быццам усенька было ў ёй, нават душ. Зусім не горш чымсьці ў чыкагаўскім Джэкстаўне, дзе эмігранты дабра нажылі ды ўнукаў, прыемна распанелых, прычакалі (на славу Амерыцы, вядома). Ранкамі наведвалася двух у капялюшах, трохі як блізнюкі, і прыносілі ежу, каб ніхто ад нас не бегаў у пустыя крамы з бурклівымі прадаўшчыцамі (мы не дадумаліся, што тут мець грошы — гэта яшчэ далёка не ўсё). Сытна паснедаўшы на кавалерскі манер, — хлеб, кілбаса, масла, сыр, — усядаліся ў сваю сенсацыйна доўгую і бліскотную аўтамашыну ды кіравалі пад казённыя палацы, праводзіць там перамовы настолькі нялішнія, як візіт жаніха да бацькоў цяжарнае нарачонай... Пасля чаго — балаганна, але смачна, абедалі ўсё ў тым рэстаране для замежнікаў (рублі даставаліся за бесцань). Прыцемкам заходзілі невялікімі шайкамі да нас прыветныя тыпы, ставілі гарэлку (з попахам нафты) і мы заводзіліся з імі на метысізаванай мове. Калі на пяты дзень будавання гешэфтаў у гэтым безнадзейным старонні ў мяне пачаліся прыступы меланхоліі, мы, бы на крылах, павярнулі дамоў.

## АДКАЗ НА РЭЦЭНЗІЮ

**маёй кніжкі „Narody wielkie i małe. Białorusini w Polsce", Кракаў 1991, змешчанай у 41 н-ры „Нівы" аўтарства д-ра Яўгена Міраповіча („Малы народ пад мікраскопам сацыёлага").**

Наогул не адказваю на рэцэнзіі таму, што рэцэнзент мае поўнае права на свае ўласныя заўвагі, погляды, на бачанне спраў „па-свойму". А чытач мае магчымасць купіць або пазычыць у бібліятэцы кніжку і зверыць апінію рэцэнзента з сапраўдным зместам публікацыі. Тады крытычная рэцэнзія ўплывае на рост зацікаўлення кніжкай і тэмай, служыць яе распаўсюджванню.

Пішу адказ, бо баюся, што гэта рэцэнзія ў адносінах да многіх чытачоў, на якіх апініі мне моцна залежыць, будзе адзінай крыніцай інфармацыі аб кніжцы. У такой сітуацыі вельмі важным з'яўляецца тое, каб рэцэнзія спаўняла два варункі: справаздаўчы і рэкамендацыйны. У апублікаванай рэцэнзіі адсутнічае справаздаўчы элемент. Другі матыў, які заставіў мяне пісаць адказ, гэта грамадскі кантэкст, у якім паказаны сацыёлаг у тэрыторыі і сацыёлаг наогул.

У публікацыі "Narody wielkie i małe. Białorusini w Polsce", як я пісаў ва ўступе кніжкі, галоўнае — паказаць сітуацыю беларускай меншасці ў Польшчы ў кантэксце ўзросту рангу і значэння трох вельмі важных феноменаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы канца XX стагоддзя, а менавіта:

— росту значэння нацыянальных ідэй, нават сярод малых этнічных грамадстваў,

— росту ролі рэлігіі як важнага фактара, які вызначае этнічныя адрозненні, і

— узмацнення рэлігійна-нацыянальных пытанняў на сумежжах.

Уся праца з'яўляецца эмпірычным суадносеннем да гэтых трох пытанняў. Прапанаваны мною метадалагічны падыход — гэта даследаванне сітуацыі малых народаў у іх сувязях і залежнасцях ад суседніх народаў, наогул дамінуючых. Лічу, што разгляд сітуацыі беларусаў у суседстве палякаў і расейцаў метадалагічна абгрунтаваны. Мае ён вялікае эўрыстычнае значэнне, што стараўся я даказаць у працы. Натуральна, гэта не выключае іншыя спосабы і формы інтэрпрэтацыі.

Рэцэнзент падрывае асноўную метадалагічную частку працы сцвярджаючы, што рэспандэнты (жыхары гмінаў Нарва і Новы Двор) хлусілі, гаварылі інакш, чым думалі аб справах пра якія пыталі даследчыкі. У такі спосаб падрываецца сэнс сацыялагічных даследаванняў. Тэзіс аб няпраўдзівых адказах рэцэнзент аргументуе асабістым прыкладам з 1983 года, калі ён сам праводзіў анкету з 20 простых пытанняў. Пытанні задаваліся на польскай мове і між іншым у сувязі з атаясамліваннем асобы праводзячай анкету з мясцовай уладай, даваліся непраўдзівыя адказы. Пытанне шчырасці адказаў, наладжвання кантактаў з рэспандэнтам — гэта элементарныя справы ў працы сацыёлага, якіх прытрымоўліваемся на практыцы. Калі ўзнікаюць сумненні наконт верагоднасці адказаў, існуе шэраг спосабаў (напр.: кантрольныя пытанні), каб выявіць хлусню. Гэтаму служыць адпаведная метадалогія і шматгадовы вопыт сацыёлагаў.

Лічу, што сярод праваслаўных грамадскасцяў Беластоцкага ваяводства непраўдзівыя адказы можна атрымаць задаючы пытанні як на польскай, так і на беларускай мовах. Залежыць гэта ад месца, у якім ставіцца пытанне, ад тыпу рэспандэнтаў і ад канкрэтнай сітуацыі апытання. Аб гэтым сацыёлаг наогул ведае, або ведаць павінен.

Рэцэнзент, відаць, засвоіў надта спрошчаны вобраз сацыёлага як чалавека, які складае анкеты і вядзе апытанні, а адначасна — у адрозненні ад нармальнага чалавека — не ведае, што часта людзі не гавораць праўды. Праблема ў тым, што мы ведаем аб гэтым, што людзі могуць ведаць, але не гаварыць, могуць не ведаць, але гаварыць так, быццам бы ведалі, а таксама могуць ведаць што іншае, а гаварыць што іншае. Называецца гэта парушэннем экспрэсіўнай функцыі выказвання, якую

**( Працяг на стар. 6 )**

## Свойскія малюнкі



**Беласток.**
Вул. Заменгафа.
*Мал. У. Петрука*

## НАШЫ КАРАНІ

### XXV. МЕРКУРЫЙ СМАЛЕНСКІ

Працавітае, стваральнае, хоць і поўнае міжусобных звадак і войнаў жыццё ўсходнеславянскіх княстваў раптоўна разбурыла з'яўленне татара-мангольскіх наезнікаў. Спачатку яны запаланілі шматлікія народы, якія насялялі аграмадныя абшары паміж Волгай, Каспійскім морам і Уральскімі горамі ды, як падае летапісец, „ад старога... і да немаўляці" выразалі або звялі ў палон. У канцы 1237 г. яны рушылі на ўсходнеславянскія землі. Разрозненныя ды перасвараныя паміж сабою князі не здолелі аб'яднацца ў дзейсную сілу, і татара-мангольскія полчышчы пад кіраўніцтвам хана Батыя разграмілі паасобныя княствы Паўночна-Усходняй Русі, пераважную большасць насельніцтва перабілі, маладых забралі ў палон, гарады і сёлы абрабавалі, разбурылі ды спалілі, а пасля Масквы „пакінулі толькі назву" — піша той жа летапісец.

На пачатку 1238 г. татары падступілі да Смаленска, намерваючыся, відаць, ісці ў глыб беларускіх земляў, каб рабаваць казачна багатыя Віцебск, Полацк, Менск, Навагрудак, іншыя гарады і сёлы. Яны наблізіліся амаль на 30 кіламетраў ад Смаленска і навокал яго „многія святыя цэрквы папалілі і хрысціян пабілі". Аднак тут дарогу ім загарадзілі згуртаваныя з беларускіх княстваў дружыны. Бітва з татара-мангольскімі наезнікамі была вельмі цяжкая, кровапралітная, бо іх у некалькі разоў было болей за хрысціянскіх вояў. Аднак праваслаўныя перамаглі, разбілі татарскія полчышчы і прымусілі іх адступіць. Сталася гэтак таму, як кажа паданне, што сама Маці Божая ўступілася за праваслаўных беларусаў.

Тое ж старажытнае паданне паведамляе, што ў Смаленску ў тым часе жыў нейкі малады чалавек па імю Меркурый, які ўславіўся пачцівым жыццём, постам і малітвамі. Яго выбрала Багародзіца на абарону праваслаўных беларусаў. Калі набліжаліся наезнікі, Меркурый маліўся ў смаленскай Свята-Багародзічнай царкве. Перад ім з'явілася сама Маці Божая і сказала: „Хоча бязбожны кат з волатам сваім, і сынам яго, і ўсім сваім войскам напасці гэтае ночы на горад Мой і рабаваць яго. Але не пакінула Я горад Свой і ўзненавідзела напышлівасць ілжывага гэтага ката, які, марна ўзнёсшыся, змізарные Праваслаўе. І ўмаліла Я сына і Бога Майго, каб не аддаў Ён мой горад у палон і ў рабства злым паганам". Божая Маці загадала Меркурыю ісці і разграміць паганскія войскі, адпомсціць хрысціянскую кроў. І воін, выйшаўшы з царквы, сеў на гонкага каня ды на чале хрысціянскага воінства рынуўся на ворагаў. Быццам арол, налятаў ён на татараў і знішчаў іх мячом. Не траплялі ў яго стрэлы, не бралі шаблі татарскія і не змагла яго стома, пакуль не былі разгромлены варожыя полчышчы. А калі ўжо Батый з рэшткамі свае арміі адыходзіў ад Смаленска „прыйшоў люты паганін (сын волата, забітага мячом Меркур'евым), ад таго і прыняў смерць" Меркурый.

„А калі адсеклі галаву святому Меркурыю, то ён сам узяў яе і прынёс у горад, і сказаў усім галавою сваёю адсечанай пра перамогу і заступніцтва Багародзіцы".

Цела свайго героя-абаронцы смаляне ўрачыста пахавалі ў Свята-Багародзічнай царкве. Праз некаторы час аднаму са смалян з'явіўся ў сне святы Меркурый і прамовіў: „Скажы гараджанам, каб павесілі зброю маю — кап'ё і шчыт — над грабніцай маёю. А калі будзе якая бяда гораду, — хай вынесуць іх, услаўляючы Бога і Яго Маці, і ўспамінаючы мяне, раба Божага Меркурыя, і дасць вам Гасподзь Бог перамогу ад гэтае зброі, і будуць знясланены ворагі". І павесілі (зброю) так, як наказаў святы Меркурый, і „была вялікая радасць гараджанам". Такім чынам паводле легенды, дзякуючы заступніцтву Божай Маці і подзвігу праваслаўнага рыцара-воіна быў уратаваны Смаленск і ўся Беларусь.

Гэта быў сапраўдны цуд, бо татары праз два гады зноў рушылі на захад, запаланілі ўкраінскія землі, учынілі разню ў Польшчы, зваявалі Венгрыю, але беларускую зямлю ардынцы абмінулі і такім чынам яна шчасліва пазбегла жудаснага нашэсця і нявольніцкага ярма. З таго часу, як мяркуюць некаторыя вучоныя, яна займела назву Белая Русь, гэта значыць Вольная Русь, а вобраз Меркурыя імклівага ваўніка-конніка з узнятым мячом набыў назву Пагоні і стаў гербам Беларусі.

Памяць святога вялікамучаніка Меркурыя Праваслаўная Царква адзначае 24 лістапада (7 снежня па новаму стылю).

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## ШТО І ЧАМУ?

**Васемнаццатага і дзевятнаццатага лістапада** гасцямі Беларускага дэмакратычнага аб'яднання былі прадстаўнікі Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" **Валянціна Трыгубовіч, Валянцін Голубеў і Сяргей Мурог.** Перамовы сяброў БДА і БНФ „Адраджэнне" датычылі пытанняў польска-беларускіх зносінаў, агульна-палітычнай сітуацыі ў Польшчы пасля парламенцкіх выбараў, а таксама ўзаемадачыненняў абедзвюх арганізацыяў.

Апошнім часам на польскім кніжным рынку паказаліся дзве кніжкі-даведнікі з адным загалоўкам **„Палітычныя партыі ў Польшчы".*** Змест кніжак — гэта сістэматычная характарыстыка польскага палітычнага жыцця. Не толькі па прычыне сваёй значнасці, у абодвух выданнях БДА займае першыя бачынкі.

**Галоўная рада Беларускага дэмакратычнага аб'яднання** з вялікім здзіўленнем успрыняла пастанову Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства аб увядзенні аплаты для ўсіх беларускіх арганізацыяў за карыстанне памяшканнямі пры вуліцы Варшаўскай, 11. Галоўная Рада звярнула ўвагу, што апрача маральнага боку гэтай пастановы, існуе і другі — юрыдычны. Усе беларускія арганізацыі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Рэчыпаспалітай, маюць адно памяшканне, менавіта будынак пры той жа Варшаўскай, 11. І як не дзіўна, БГКТ як адзіная з іх, якая ўтрымоўваецца за кошт дзяржавы, патрабуе грошай ад усіх апошніх, якія такой датацыі ніколі не атрымоўвалі. Па ініцыятыве Галоўнай рады БДА ў Міністэрства культуры і мастацтва Рэчыпаспалітай Польскай (камісія нацыянальных меншасцяў) быў накіраваны ліст, падпісаны старшынямі: Рады беларускіх арганізацыяў Пятром Юшчуком, Галоўнай рады БДА Сакратам Яновічам, Беларускага аб'яднання студэнтаў Уладзімірам Пацам і Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" Янам Чыквінам, у якім яскрава ставіцца патрабаванне высветліць гэтую справу.

**Другі Кангрэс БДА** пачне сваю працу 26 студзеня 1992 года ў памяшканні Філіі Варшаўскага універсітэта (вул. Лінярская 4) у Беластоку. Парадак ходу Кангрэсу, прапанаваны Кангрэсавай камісіяй апрача справаздачы, прадбачвае змены ў статуце і праграме партыі, а таксама, перавыбары ўладаў. Формула Кангрэсу прадбачвае поўную яўнасць ягонага ходу, з той аднак засцярогай, што правы падымаць вырашэнні прыслугоўвае выключна сябрам Аб'яднання.

**Ю. КАЛІНА**

**) Partie polityczne w Polsce. Warszawa, październik 1991 r, PAW.*

*Partie polityczne w Polsce. Gdańsk, 1991 r., KAW.*

НАД КНІГАЙ „ВІРЫ"

## КОЛЬКІ ЯНА НАВОДЗІЦЬ ДУМАК...

Толькі што выйшла з друку мемуарная кніжка Георгія Валкавыцкага „Віры". Амаль дзвесце старонак. Змест цікавы! Варта пачытаць.

Я прачытаў „Віры" аднаго снежаньскага дня. Ніяк не мог ад яе адарвацца. Чытаю, а сам пераключаюся на хвалю ўспамінаў. Успамінаю той час, калі беларускі тыднёвік „Ніва" выйшаў у свет. Я тады вучыўся ў стараляўкоўскай пачатковай школе. Кіраўнік Рыгор Каролька склікаў з гэтай нагоды „апэль", настаўніца беларускай мовы Марыя Сікорская паведаміла аб выхадзе першага нумара „Нівы". Першыя свае допісы я пачаў высылаць у 1958 годзе, калі паявіўся дадатак для дзяцей — „Зорка". З той пары я неразлучна звязаны з „Нівай" больш за трыццаць год.

Гартаю „Віры", а ў маіх вачах паўстаюць вобразы з часоў працы ў рэдакцыі „Нівы". Разам з яе галоўным рэдактарам ездзілі мы ў камандзіроўкі. Запомніліся супольныя паездкі да паэтаў — рыбакоўскага партрэціста, дзядзькі Хведара Хлябіча.

*„Крынічныя паэты! Смутная радасць. (...) Захапіў я з сабою Янку Целушэцкага (меткага фотастралка) і паехаў у Рыбакі знаёміцца з маладым душою дзядзькам,* — піша Г. Валкавыцкі.

*Заблудзіць немагчыма. Хата дзядзькі Хведара на першым завароце. І гаспадар на месцы. Зямля толькі адтаяла, у полі гразка, а пойменныя лугі заліла веснавая Нарва".*

Пабывалі — гэта было ў маі — і ў

( Працяг на стар. 7 )

## НА КАЛІДОРАХ ЭКЗАРХАТА

( Працяг са стар. 1 )

і дзесяцігоддзі — гэта аўтарскія варыянты, якія змяшчаюць у сабе такія, ці іншыя асабістыя ўспрыманні перакладчыкаў. Варта ў гэтым месцы сказаць пра неабходнасць распрацоўкі царкоўна-тэалагічнай лексікі ды стварэння беларускага тэалагічнага слоўніка, пазбаўленага як ад паланізмаў, так і ад русізмаў. Без гэтага лексікальнага пласта беларускай мовы нельга развіваць ні мову пропаведзі, ні мову тэалогіі.

Яшчэ пра выдавецкую дзейнасць Царквы ў Беларусі. Два юбілеі — 1000-годдзе заснавання Полацкай епархіі (у 1992) і 200-годдзе заснавання Менскай епархіі (у 1993) будуць адзначаны выхадам у свет арыгінальных выданняў ды перавыданнем тых твораў, якія зараз не менш актуальныя, чым у час іхняй першай публікацыі. У выдавецкім плане ёсць таксама кніга, якая прадстаўляе сучасны агіяграфічны доследх — „Беларускі патэрык", зборнік біяграфіяў святых.

— На заканчэнне, — дадаў Андрэй Петрашкевіч, — некалькі слоў пра тэматыку „Весніка Беларускага Экзархата". Акрамя паведамленняў пра асноўныя падзеі ў жыцці Праваслаўя ў Беларусі (з гэтай часткі часопіса чытач можа даведацца пра погляды Царквы на галоўныя пытанні нашага сучаснага жыцця) публікуем вялікую колькасць гістарычных матэрыялаў: гісторыю цэркваў, біяграфіі святых, лёсы хрысціянства на нашых землях сягоння і ў мінулым, навучанні і малітвы, тэалагічныя



*Айцец Леанід – мой праваднік па Экзархаце.*

артыкулы, рэпрадукцыі іконаў. Уся гэтая інфармацыйная разнавіднасць аб'ядноўваецца па прынцыпу тэматычных нумароў. „Інтэлігенцыя і Праваслаўе", „Шляхі і лёсы Божага народу", „Праваслаўе на Белай Русі: людзі і цэрквы" — гэта галоўныя тэмы некаторых папярэдніх нумароў. Гэткай практыкі рэдакцыя намерваецца прытрымлівацца і надалей.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**Фота аўтара**

## ЦІ БАГАТАЯ БЕЛАРУСЬ?

Перад Беларуссю адкрылася перспектыва стаць вольнай, дэмакратычнай і незалежнай дзяржавай. Але ці будзе яна заможнай у такой якасці? Ці можа натуральнае жаданне людзей добра жыць паслужыць „рухавіком" ідэі суверэнізацыі Беларусі?

У рэспубліканскім друку нямала гаварылася пра тое, што галоўнае багацце Беларусі — гэта людзі, іх розум і талент, адукацыя і прафесіяналізм. Шмат слоў сказана і аб тым, што многія беларускія прадпрыемствы і гаспадаркі канкурэнтаздольныя не толькі ў межах эканамічнай прасторы былога СССР. Выказваюцца слушныя думкі аб неабходнасці па-гаспадарску скарыстаць выгоды геапалітычнага становішча незалежнай Беларускай дзяржавы. Але, на жаль, грамадскасць Беларусі няшмат ведае пра багацці яе нетраў, якія, „схаваныя" ад скваннага вока чужынцаў, засталіся не разрабаванымі і з'яўляюцца рэзервовым "залатым" фондам нацыі. І цяпер, калі Беларусь атрымала гістарычны шанц стаць незалежнай дзяржавай, яе насельніцтва — народам і часткай цывілізаванай і заможнай еўрапейскай супольнасці, а кожны з нас — яе грамадзянінам і гаспадаром, прыйшоў час паставіць на службу Бацькаўшчыне ў важкім сэнсе слова яе незлічоныя скарбы.

Аднак ці багатыя мы?

Найперш адзначым, што народу Беларусі пашанцавала: да самага апошняга часу багацці яе нетраў былі нераскрытай таямніцай для „цэнтра". І толькі ў выніку комплексных геолагаразведвальных даследаванняў, якія пачаліся ў пасляваенныя дзесяцігоддзі і працягваюцца да гэтага часу, выявілася, што ў нетрах беларускай зямлі захоўваюцца прыдатныя для прамысловай здабычы і перапрацоўкі многія карысныя выкапні. „Цэнтр" не паспеў вывезці тое, што цяпер так спатрэбіцца, каб пабудаваць заможны беларускі дзяржаўны дом, аднак нанёс адчувальныя страты як эканоміцы, так і экалогіі ў выніку „асваення" нетраў Беларусі.

З 1961 года ў нафтаправод „Дружба" было адкачана звыш 80 млн. тон высокаякаснай беларускай нафты, той сыравіны, перапрацоўваючы якую на месцы, можна было б вырабляць тавары, каб апранаць чалавека з галавы да ног. Такую нафту нельга было перараблясць на паліва, для гэтага на два беларускія нафтаперапра-цоўваючыя заводы ў Мазыры і Наваполацку паступае сыравіна значна ніжэйшай якасці з Сібіры, дзе дарэчы, працуюць і беларускія нафтавікі на промыслах, у якія ўкладзены немалыя фінансавыя сродкі нашай рэспублікі. Пры надзвычай нізкіх затратах на здабычу, кошт прададзенай за мяжу беларускай нафты склаў звыш 8 млрд. долараў. Гэтых грошай Беларусь не ўбачыла. Адначасова з нетраў рэспублікі было адкачана звыш 5 млрд. кубаметраў спадарожнага газу, які са стратамі для экалогіі быў часткова спалены ў „факелах" на ўстаноўках прамысловай здабычы сыравіны.

„Цэнтрам" закладзены ў інфраструктуру здабываючай і перапрацоўчай прамысловасці Беларусі "перакос" выключна не на карысць рэспублікі. Беларусь не толькі не распараджалася сваімі карыснымі выкапнямі, але і не магла вырабляць у выніку іх перапрацоўкі канцавы прадукт і, адпаведна, не мела магчымасці атрымоўваць высокі прыбытак. Доўгі час рэспубліка выраблае 53—55 працэнтаў агульнасаюзнай здабычы калійных солей, звыш 50 працэнтаў прадуктаў перапрацоўкі торфу, вялікую долю прадукцыі з драўніны. У той жа час радовішчы калійных солей Беларусі складаюць прыкладна трэцюю частку, торфу — менш 3 працэнтаў ад агульнасаюзных запасаў. Адначасова

( Працяг на стар. 8 )

*****



## СВЯТА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

*(пачатак у папярэднім нумары)*

Кульмінацыяй урачыстасцей, прысвечаных М. Багдановічу было масавае спатканне грамадскасці Менска ў Вялікім тэатры оперы і балета дзесятага снежня. Увесь партэр тэатра як і яго балконы былі запоўнены народам. У прэзідыуме знайшліся міністр культуры і прадстаўнікі навуковага, культурнага і літаратурнага жыцця Рэспублікі Беларусь, а з замежных гасцей у прэзідыум былі пакліканы перакладчык беларускай літаратуры на нямецкую мову аўстрыец Фердынанд Нойрайтар і я.

Вёў спатканне вядомы пісьменнік Ніл Гілевіч. З дакладам, прысвечаным жыццю і літаратурнай творчасці М. Багдановіча выступіў добры наш знаёмы і прыяцель дэкан філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта акадэмік Алег Лойка. Дакладчык у вельмі жывым і каларыстычным слове прадставіў постаць Багдановіча - грамадзяніна і Багдановіча-паэта. Даклад меў характар рэфлексійны, а не акадэмічны і гэта несумненна спадабалася сабраным.

У тракце ўрачыстага вечара Ніл Гілевіч паінфармаваў сабраных аб тым, што гарадскі Савет пастанавіў перайменаваць вуліцу Горкага на вуліцу Максіма Багдановіча, Ленінскі праспект — на праспект Скарыны, а галоўную плошчу Менска– Леніна — на плошчу Незалежнасці. Гэта інфармацыя выклікала бурлівую авацыю сабраных, якія стоячы ўшанавалі гэтыя гістарычныя перамены.

Пасля пачаліся выступленні такіх пісьменнікаў як В. Зуёнак і Р. Барадулін, а таксама аўстрыйца Ф.Нойрайтара, які прачытаў свой пераклад на нямецкую мову аднаго з вершаў Багдановіча. Публіка ўсіх выступаючых вітала вельмі стыхійна і сардэчна.

Здавалася мне, што Ніл Гілевіч забыў аба мне або свядома пастанавіў не даць мне голасу. Так аднак не сталася. Пад канец запрасілі і мяне на трыбуну. Вось мая прамова і верш:

„Шаноўныя дочкі, сыны, унукі і нашчадкі Максіма Багдановіча! Прыміце сардэчныя прывітанні і віншаванні з нагоды вялікага нашага свята — стагоддзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча ад беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

Бываюць на свеце рэчы малыя, дробязныя, мізэрныя. Такія рэчы належаць паасобным людзям. Ёсць на свеце рэчы вялікія, істотныя, значныя. Яны належаць цэлым народам. Ёсць на свеце рэчы вялізныя, грандыёзныя, пераломныя. Такія з'явы належаць усяму чалавецтву. Да такіх з'яў належаць, між іншым зямля, вада, сонца. Да з'яў падобных да зямлі, вады і сонца належаў Максім Багдановіч і таму гэты сын беларускага народа належыць да ўсяго чалавецтва. Быў нам Багдановіч патрэбен у нашаніўскую пару, быў патрэбен у перыяд беларусізацыі, быў патрэбен у часы сталінскага тэрору, быў патрэбен у перыяд акупацыі і патрэбны нам сёння — у час нацыянальнага рэнесансу. Багдановіч паможа нам падняць з гразі беларускую мову, беларускую душу і беларускі гонар. Паможа ўзняць іх да сонца. Багдановіч сёння з намі і таму ўся Рэспубліка гаворыць — наш Багдановіч і беларусы з Польшчы гавораць– наш Багдановіч, і беларускія эмігранты гавораць -- наш Багдановіч, і ўсе цывілізаваныя народы свету гавораць –наш Багдановіч. У гэтым якраз і праяўляецца ўніверсалізм паэта.

Веліч або мізэрнасць чалавека вызначае час, гісторыя. У справе Багдановіча гісторыя ўжо выказалася, залічыла яго да вялікіх постацей.

Ад моманту нараджэння Багдановіча прамінула сто гадоў, ад моманту яго смерці амаль семдзесят пяць. І чым болей дзён і дзесяцігодзяў мінае ад нараджэння і смерці паэта, тым вышэй узнімаецца над беларускім народам пераможны і незалежніцкі сцяг паэзіі".

Пасля я прачытаў верш, які, думаю, будзе змешчаны ў „Ніве" *(верш надрукаваны на стар. 3 — рэд.).*

Апладысменты я меў доўгія, а прысутны на сходзе старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч павіншаваў мяне і сказаў, што верш яму вельмі спадабаўся.

Пасля афіцыйнай часткі адбыўся цудоўны канцэрт, які захапіў усю публіку, у тым і Валю Ласкевіч, і Янку Сычэўскага і мяне. Хацелася б, каб хаця некаторыя з тых калектываў пабывалі на Беласточчыне.

Вось так выглядалі святкаванні сотай гадавіны з дня нараджэння М. Багдановіча і так выглядаў наш скромны ўдзел у гэтых урачыстасцях.

**АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ**

## АДКАЗ НА РЭЦЭНЗІЮ

( Працяг са стар. 4 )

можна мінімалізаваць у ходзе інтэрв'ю. Не ведаю, ці Вы памяталі аб гэтым у часе сваіх апытанняў у 1983 г. Размова між сваімі таксама не заўсёды з'яўляецца крыніцай праўды. Яна бадай што прадстаўляе акрэсленае становішча, акрэслены інтарэс сваёй групы. Я рашучы працўнік „анкетаманіі", выкарыстоўвання даследніцкага інструменту — анкеты, без грунтоўнай прафесійнай падрыхтоўкі. Выказванні — гэта сыры матэрыял, які падлягае інтэрпрэтацыі ў рамках адпаведнай сацыялагічнай тэорыі і семантычнай структуры. Сацыялогія — гэта навука, якая дапускае вывучэнне рэчаіснасці свабодна ад вартасцей, па-за адным — навуковай сумленнасцю, што не абазначае, што не здараюцца памылкі. Не выступаюць яны на ўзроўні сацыялагічнай азбукі, што ўпушчае рэцэнзент.

Цяжка зміршыцца са зняважлівымі адносінамі рэцэнзента да „навукоўцаў з Познані", якія апытвалі насельніцтва наконт рэлігійных і нацыянальных пачуццяў. Замест высніць і магчыма пераканаць свайго размоўцу да сумленнай трактоўкі даследаванняў (анкеты сталі важным інструментам дэмакратыі), аўтар рэцэнзіі быццам бы салідарызуецца з солтысам „рагочучы" з тых, якія ва ўсё паверылі.

Такія паводзіны ствараюць вельмі некарысную сітуацыю менавіта ў беларускай нацыянальнай меншасці. Менавіта „мы" ёсць добрыя, нармальныя і ведаем усю праўду, калі „яны", прыезджыя — смешныя, абмежаваныя, даверлівыя, і т.п. Па-першае — невядома ці яны паверылі, а па-другое — шкодны негатыўныя наступствы распаўсюджвання ў краіне ведаў пязгодных з праўдай. Такім чынам замацоўваецца стэрэатып беларуса — недаверлівага, скрытага чалавека, які адмяжоўваецца ад іншых. Ці да ўзнікнення такога вобраза беларуса ў вачах паляка прычыняюцца толькі „навукоўцы з Познані"? Затым трэба нам смяяцца таксама з сябе самых і са сваёй блізарукасці. Калі рэцэнзент думае, што ў такі спосаб пытанні аднесліся да мяне і маіх студэнтаў, дык заяўляю, што апрача адказаў на пытанні браў я пад увагу і такую дэталь, што асабіста ведаю гміну Нарва так добра, як яе радавітыя жыхары і ў такой сітуацыі цяжка гаварыць аб нейкіх асноўных памылках або парушэннях.

Маё супраціўленне выклікае трактоўка беларускай меншасці як закрытага энклава, які адмяжоўваецца ад „чужых". Думаю, што ў самым глыбокім інтарэсе беларусаў ляжыць адкрытасць у адносінах да палякаў і польскасці, выхад з ізаляцыі і свабоднае вызначэнне сваёй будучыні ва ўмовах свабоды, у тым ліку і ў адносінах да рэлігійна-этнічнай тоеснасці.

У працы я стараўся даказаць, што на грунце праваслаўнага субстрату на Беласточчыне сфармавалася або фармуецца далей не толькі беларуская і польская, але і прамежкавая (беларуска-польская) нацыянальная свядомасць. Нельга таксама не заўважыць, што ў паўднёва-ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства маем дачыненне з фармаваннем украінскай нацыянальнай свядомасці. Гэта аб'ектыўна існуючыя грамадскія з'явы. Можна спрачацца наконт назвы або апісання прычын узнікнення, унутранай істоты гэтага этнічна-культурнага феномену на Беласточчыне. Можна толькі сцвердзіць, што існаванне на сумежжы некалькіх народаў надвойнай нацыянальнай прыналежнасці, ці людзей дзвюх культур — гэта вядомая з'ява і выступае яна не толькі на Беласточчыне. На практыцы могуць быць розныя прапорцыі ў сферы гістарычнай свядомасці, мовы, іншых культурных і грамадскіх элементаў, палітычнай культуры, але канчаткова ў сферы індывідуальнасці ствараецца прывязанасць да двух народаў і іх культур і трэба гэта неяк назваць.

Лічу, што гэта праява надвойнай нацыянальнай прыналежнасці. Экспанаваць адну частку індывідуальнасці, а ставіць на пасмешышча другую — гэта нетактоўнасць у

( Працяг на стар. 8 )

# ЧАКАННЕ КАНЦА

У Тыневічах калгас стварaўся два разы: у пяцідзесятыя гады — раскідаў яго Гамулка, ды ў геркаўскі час. Тады якраз і быў ягоны росквіт, бо ўжо ў васьмідзесятыя пачаў хіліцца і, усё паказвае на тое, у пачатку апошняга дзесяцігоддзя нашага веку прыкончыць яго бязлітасны капіталізм.

На старожцы, каля кафельнай печы грэюцца мужчыны. Прыходзяць на працу, хаця рабіць няма чаго. Машыны стаяць, варштаты зачыненыя, апошняя жывёліна даўно ўжо прададзена. Людзі пасядзяць да 10-ай, 11-ай гадзіны і разыходзяцца па хатах. Ды колькі тых калгаснікаў засталося, усяго трынаццаць чалавек.

— Раней я налічыў самых начальнікаў васемнаццаць, — кажа Мікалай Галавачык, — з бухгалтаркамі, кіраўнікамі і брыгадзірамі. А рабочых была найменш сотня. Мелі мы тады 22 трактары, мікробусы, тры вялікія грузавікі-самазвалы. Былі рамонтна-будаўнічыя брыгады, рабілі „трылінку".

У калгасе 450 гектараў зямлі — 150 гектараў ворнае, апошняя гэта зялёная паша, сенажаць. Зямля слабаватая, найбольш пятага і шостага класаў, а калі дзе лепшая, дык падмоклая. Там дзе можна ўзяць плён, не ўедзеш машынамі. Меліярацыя праводзілася тут ужо даўно, равы пазарасталі, няма ніякай рэгуляцыі. Але па лугах яе і не зробіш, бо што будзе з асушанага торфу, што на ім збярэш. Ды і ў калодзежы у вёсцы вады не знойдзеш, калі дакладна змеліяраваць навакольнае балота.

Гаспадарка ў калгасе абапіралася на гадоўлі мяснога быдла. Быў час, што ўсе сем вялікіх абораў занаўняліся жывёлай. Каб яе пракарміць, машыны мусілі ўвесь час рухацца. Бывала, зрыюць лугі нашчэнт, пазастрагаюць, пакуль іх выцягнеш, каляіны паробіш такія, што страх. І дзе ж на такім месцы потым што вырасце. Падмоклая зямля і цяжкія машыны не пасуюць адно да другога. Але ж і лёгкімі не павозіш травы для тысячы бычкоў. Тым больш вазамі.

Але бычкоў ужо няма. Машын таксама паменшала, хаця ёсць яшчэ 2 камбайны, 6 трактараў, сячкарня для травы, касілкі, грабалкі, самазбіраючыя прычэпы. І ёсць зямля. Невядома толькі, што рабіць з адным і з другім. І каму рабіць?

Кіраўніцтва няма ніякага. Дырэктар Андрэй Паўлічук звольніўся 1 снежня. Цяпер поўная дэмакратыя, усе могуць кіраваць, усе могуць загадваць. Бяда толькі, што няма чым кіраваць і каму загадваць.

Раней рабочых ніхто не пытаў, што рабіць. У 1975 годзе ўсе калгасы ў гміне Нарва аб'ядналі ў адну вялікую гаспадарку ВСГР (Wielozakładowe Spółdzielcze Gospodarstwo Rolne). Зрабілі планы, што дзе будзе расці і гадавацца. Нават у Тыневічы прывезлі такі макет, на якім была цэлая гміна з назначанымі месцамі, дзе будуць сеяць збожжа, дзе гадаваць быкоў, а дзе свіней. Планы планамі а жыццё жыццём. Калі выявілася, што адно з другім не абавязкова мусіць супадаць, ВСГР разляцеўся зноў на паасобныя гаспадаркі (спулдзельні). І так, ад 1 студзеня 1983 года ў Тыневічах была ўжо РСП (Rolnicza Spółdzielnia Produkcyjna). Ці і ёй прыходзіць ужо канец?

Людзі сядзяць каля печкі на старожцы і самі не ведаюць, чаго чакаюць. А ну ж з'явіцца хто-небудзь з „помыслам" — такі казачны князь — і скажа, што рабіць. Можа зменіцца палітыка дзяржавы ў адносінах да вёскі? Або хаця войт пацікавіцца і дапаможа знайсці нейкае выйсце.

Да гэтай пары зацікаўленне тыневіцкім калгасам праявіў толькі адзін чалавек. Прыехаў ён недзе з Ломжынскага ваяводства, восенню, і хацеў яго купіць. Гаварыў з войтам, хадзіў па вёсцы, пытаў людзей, але колькі даваў, ніхто не ведае. Толькі ніякіх абяцанняў для працаўнікоў калгаса не рабіў. Як ужо купіць, тады свае варункі паставіць. Але ж не купіў, больш нават не паказаўся.

Мужчыны ў старожцы гавораць,



*За старожкай „блок" – найбольшы цяпер выдатак калгаса.*

✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱

# КСЁНДЗ АДАМ СТАНКЕВІЧ



Прозвішчы многіх выдатных беларускіх сыноў прыходзіцца вяртаць на старонкі нашай пісанай гісторыі. Адным з іх ёсць кс. Адам Станкевіч, 100-годдзе з дня нараджэння якога зараз адзначаем.

Нарадзіўся ён 24 снежня 1891 г.(5.01.1892 г. па новаму стылю) у вёсцы Арляняты Ашмянскага павету ў сялянскай сям'і. Продкі кс. Адама былі уніятамі. Падчас касавання уніі частка з іх перайшла ў лацінскае каталіцтва, а частка ў праваслаўе. Праваслаўнымі былі бабуля Адама Станкевіча (з боку бацькі), родны брат бацькі, два браты і сястра маці. Адносіны паміж імі былі дружныя. І нават вучыцца бацька аддаў сына ў царкоўна-прыхадскую школу ў Баруны, нягледзячы на касцельную забарону хадзіць дзецям каталікоў у такія школы. Проста туды было бліжэй і лепш дасхаць. Але тут малады хлапец сустрэўся з нецалерантнасцю і зняваганмі рускіх настаўнікаў над сваёй каталіцкай верай. Тут першы раз адчуў нацыянальны і рэлігійны канфлікт, развязку якога знайшоў пазней у беларускай нацыянальнай ідэі.

На другі, 1902 год, Адам Станкевіч пераехаў вучыцца ў Гальшанскую народную школу, якую закончыў у 1904 г. Затым бацькі паслалі яго вучыцца далей — у Ашмяну, у Гарадское вучылішча. Правёў тут Адась (так называлі яго дома) чатыры гады. Вялікі ўплыў на фармаванне яго поглядаў мела рэвалюцыя 1905 г., калі абвастрыліся рэлігійныя, нацыянальныя, сацыяльныя і палітычныя канфлікты.

Пасля вучылішча, Адам Станкевіч думаў нават наступіць у юнкерскую ваенную школу, але цягнула яго да нечага вышэйшага, святлейшага. Урэшце выбраў духоўную семінарыю. Два гады рыхтаваўся на курсу гімназіі, каб здаць экзамен і наступіць у Каталіцкую духоўную семінарыю ў Вільні. Як сам пішa ў працы „Беларускі хрысціянскі рух" (Вільня 1939), прыбыў ён у семінарыю ўжо цалкам свядомым беларусам. І адразу пачаў працу сярод другіх семінарыстаў-беларусаў. Неўзабаве паўстаў беларускі гурток, беларуская бібліятэка. У школьных мерапрыемствах семінарысты-беларусы дэкламавалі беларускія вершы і спявалі беларускія песні.

У 1914 г. Адам Станкевіч закончыў Семінарыю. Яго жаданнем і імкненнем было вучыцца далей. Восенню 1914 г. выехаў ён у Пецярбург, дзе наступіў у Духоўную акадэмію. 28 снежня таго ж года атрымаў свяшчэнства (канчаючы Семінарыю быў на гэта яшчэ замалады).

У Пецярбурзе існаваў ужо беларускі гурток. Да яго кс. Адам адразу і далучыўся. Спярша быў ён сакратаром, пасля ад 1916 да 1918 г. — старшынёй. Гурток меў даволі багатую беларусазнаўчую бібліятэку, што спрыяла навуковай працы на беларускай ніве. Займаўся кс. Адам Станкевіч таксама публіцыстыкай, пішучы ў „Светач" і „Дзянніцу", а ад



*Непатрэбныя машыны.*

няхай бы ўжо лепш Бальцаровіч свой план да канца давёў, можа хаця ведалі б, што ўжо дайшлі да дна і мелі б ад чаго адпіхнуцца. А так, Бальцаровіча скінуць, планаў ніхто ніякіх не мае, у сталіцы сварацца ано за столкі, а мы як быццам вісім у паветры. І ні туды, ні сюды.

— Сёння такая сітуацыя, — кажа Мікалай Галавачык, — што ні да нас ніхто не мае ніякага права, ні мы нікуды не едзем, бо што ты без грошай зваюеш, чаго дабʼешся. Так і сядзімо тут, як падвешаныя, самі не ведаем на што спадзявацца.

Адно добра, што калгас без даўгоў. Гэта рэдкая з'ява цяпер. Праўда, сабе рабочыя не плацілі за два апошнія месяцы, але ёсць яшчэ збожжа — заплаціць будзе чым. Толькі людзі баяцца так усё распрадаць, бо можа ўсё ж такі яшчэ стануць на ногі. Думалі свіней за тое збожжа купіць і так неяк прабіцца да лепшых часоў.

За старожкай вялікі, мураваны двухпавярховы дом. У ім чатыры кватэры, бюро, святліца, калісьці была і сталовая. Мясцовыя называюць гэты дом „блокам". У „блоку" жыве адна сям'я, а ў бюро дзве бухгалтаркі гартаюць паперы. Канцылярыя працуе. Нашто? У сутыкненні з праявай такой жывучасці бюракратыі адчуваю сябе як кафкаўскі Язэп К., тым больш што мае спробы даведацца тут нешта, аказаліся безвыніковымі.

На старожцы людзі больш гаваркія. Выказваюць сваю крыўду і на гэты „блок". Будавалі яго з вялікім заангажаваннем, працавалі грамадскім пачынам. Выяўляецца — сабе на згубу так убіваліся. Цяпер гэты будынак, найбольшы выдатак калгаса. Трэба яго ўтрымаць, абагрэць, асвятліць. Людзей жа не выкінеш зімою на брук. І не скажаш, плаці за цэлы дом, бо адкуль чалавек тыя грошы возьме. Не яго ж віна, што па-суседску больш ніхто не жыве. Ды і колькі ў калгасе мог ён зарабіць. Калі была праца, хаця б каля збожжа, тады выходзіла больш-менш тое, што ўспамога для беспрацоўных, а так, дык і гэтага не было. За апошнія ж два месяцы ўвогуле ніхто не браў зарплаты.

Так і сядзяць, рабочыя на старожцы, бухгалтаркі ў бюро. Нікуды не едуць, ніхто сюды не прыязджае. Гэтак выглядае чаканне канца.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота аўтара**



*Зачыненыя аборы.*

# КОЛЬКІ ЯНА НАВОДЗІЦЬ ДУМАК...

**( Працяг са стар. 5 )**

Циванюках, дзе жыў другі земляроб па прафесіі, а паэт па прызванню — Аркадзь Ляўшук. Яго вершы, як і Хведара Хлябіча, дыхалі роднай зямлёй, выйшлі з яе, пусцілі ў яе глыбокія карэнні, чэрпалі з яе сокі жыцця.

Ад Х. Хлябіча мы даведаліся пра цікавую знаходку ў вёсцы Лука, што каля Бандароў — выараны ў агародчыку мядзяны званок з надпісам. Надпіс быў месцамі сцёрты. Поўны яго тэкст дапамаглі нам расшыфраваць ніўскія чытачы.

Чытаю раздзелы, вызначаныя гадамі. Галава кружыцца ад цікавых успамінаў. Як усё жыва апісана, як вобразна. Мова зачароўвае! У гэтай кнізе можна яе павучыцца. Якія метафары, якія параўнанні! Мала слоў а якая глыбіня думкі!

Заахвочваю прачытаць „Віры". Шмат чаго з яе даведаецеся. А якраз доўгія зімовыя вечары таксама выдатная пара да чытання. З нататак рэдактара даведаецеся пра нарадзіны „Нівы" і гады яе існавання, водгукі чытачоў. Кніга застаўляе, каб крыху над ёй прызадумацца, дайсці да тых ці іншых вывадаў. Трапны і загаловак кнігі — „Віры". Яны — віры на жыццёвым шляху не толькі рэдактара, але і беларускага руху, ды й віры ў плыні агульнадзяржаўнага жыцця. Усё гэта цесна звязана з сабою. Віры менш і больш небяспечныя. Як аўтар іх адолеў і ці гэта поўнасцю было магчыма гэтае завіраванне, аўтар раскрывае гэтую тайну перад чытачом.

Дзякую аўтару за цёплы ўспамін аба мне.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

***

1917 г. — у „Крыніцу". Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. кс. Адам бярэ ўдзел у арганізацыі беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху, становіцца актыўным сябрам Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці, якая паўстала ў красавіку 1917 г. у Пецярбурзе, прымае ўдзел у з'ездзе беларускага каталіцкага духавенства ў Менску (24—25.V.1917 г.), дзе чытае даклад аб беларускім руху і ягоных адносінах да касцельнага жыцця на Беларусі. Як адзін з першых сярод беларускага каталіцкага духавенства кс. Адам запачаткаваў казанні па роднай мове.

У 1918 г. закончыўшы Акадэмію кс. Адам Станкевіч вярнуўся на Беларусь, спачатку на Дзісеншчыну, а потым у Вільню. Але польскія духоўныя каталіцкія ўлады не далі яму ў Вільні доўга сагрэцца і выправілі на вікарага ў Драгічын над Бугам. У той час у Вільню прыбыў Юры Матулевіч, вядомы са сваёй талерантнасці ў нацыянальных справах. Ён дазволіў кс. Адаму вярнуцца і заняцца грамадскай працай.

Віленскі перыяд жыцця і дзейнасці кс. Адама Станкевіча найбольш багаты і творчы. Тут працуе ў шматлікіх беларускіх арганізацыях і ўстановах (між іншым у Камітэце помачы ахвярам вайны, Таварыстве беларускай школы, Беларускай гімназіі, Беларускім выдавецкім таварыстве, Беларускім нацыянальным камітэце, Беларускім інстытуце гаспадаркі і культуры), арганізуе беларускіх католікаў, гаворыць ім у нядзелі і святы беларускія казанні, разгортвае выдавецкую дзейнасць, многа працуе на навуковым грунце, з'яўляецца пастаянным супрацоўнікам не толькі беларускіх газет (супрацоўнічаў з часопісам нацыянальных меншасцяў у Польшчы „Natio").

У выбарах, 5 лістапада 1922 г., як адзін з кандыдатаў Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэту, быў ён выбраны ад Свянцянскай акругі пaслом у Сейм Польшчы. Прыпомнім, што ў выбарах тых, ад беларускага насельніцтва ўвайшло 11 чалавек у Сейм і 3 — у Сенат.

У 1926 г. кс. А. Станкевіч стаў адным з заснавальнікаў беларускай друкарні ім. Францішка Скарыны. Думка пра заснаванне друкарні ўзнікла ў 1925 г. з нагоды святкавання 400-годдзя беларускага друку. Да рэалізацыі дайшло ў маі 1926 г. Арганізавала яе суполка, у якую ўваходзілі: кс. Адам Станкевіч, Фабіян Ярэміч, кс. Вінцэнты Гадлеўскі і ігумен манастыра Айцоў Марыянаў у Друі кс. Андрэй Цікота. З друкарні выходзіла кожны год некалькі беларускіх кніжак. Сам кс. Адам Станкевіч напісаў і выдаў 17 кніжак. Кожная з іх мае вялікае значэнне для беларускай навукі і культуры.

Вялікую ўвагу кс. Адам прысвячаў рэдакцыйнай працы, а таксама рэдагаванню беларускіх часопісаў, сярод якіх найбольшае значэнне мела „Крыніца" ( ад 1925 г. — „Беларуская Крыніца"). У 1928 г. арцыбіскуп Р. Ялбжыкоўскі забараніў католікам, а тым больш ксяндзам прымаць удзел у Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і чытаць „Беларускую Крыніцу". Кс. Адам Станкевіч вымушаны быў пакінуць палітычную дзейнасць. Але ад працы на беларускай ніве не адышоў.

Ад 1928 г. стаў ён выдаваць месячнік „Хрысціянская Думка". Меў ён рэлігійны каталіцкі характар, але калі ў 1936 г. польскія ўлады забаранілі выдаванне газеты „Беларуская Крыніца" і іншых пад назвай „Беларуская Думка" выдавалася тыднёвая газета агульнабеларускага характару. Актыўная дзейнасць на беларускай ніве не падабалася польскім адміністрацыйным уладам. Віленскі ваявода Бацянскі рашэннем ад 12.XII.1938 г. загадаў кс. Адаму пакінуць на 5 год Вільню. Ён апынуўся ў Слоніме. У Вільню вярнуўся восенню 1939 г., калі Заходнюю Беларусь заняла Савецкая Армія. Кс. Адам Станкевіч зрабіў многа стараннаў над аднаўленнем беларускага арганізацыйнага жыцця ў Віленскай акрузе пад Летувай. Узноўлена працу Беларускай гімназіі, узноўлена выданне газеты пад старой назвай „Крыніца" і працу беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Летуве. У касцёле св. Міхала стаў ён адпраўляць набажэнствы для беларусаў-католікаў.

У час вайны кс. Адам Станкевіч астаўся верны свайму незалежніцкаму становішчу. Адкінуў якую-небудзь магчымасць супрацоўніцтва з немцамі. Успамагаў антынямецкую дзейнасць. Даваў у касцёле сховішча яўрэям.

У 1944 г., заняўшы Вільню, савецкія ўлады арыштавалі, асудзілі і выслалі кс. Адама Станкевіча ў лагер. Памёр праўдападобна ў 1949 г. у Іркуцкай вобласці. На сімвалічным помніку, пастаўленым на могільніку ў Крэве віднеюць словы:

„Высока ў буру і ў непагоду,
Ты родны сцяг і крыж трымаў,
Між беларускага народу
Святую праўду засяваў".

**ЯЎГЕНІЯ ШЫМЧУК**

PS. Аўтарка артыкула даследуе беларускі хрысціянскі рух і таму звяртаецца да ўсіх, хто мог бы ёй у гэтым дапамагчы, даслаць успаміны, здымкі, выданні і дакументы. Пісаць

## ЦІ БУДУЦЬ КЛЯШЧЭЛІ МЯСТЭЧКАМ?

Нельга сягоння прадказаць дакладны тэрмін. Справа гарадскіх правоў для Кляшчэляў запынілася. Гмінная ўправа атрымала ліст з Рады міністраў, у якім гаворыцца, што ў святле цяперашняга заканадаўства можа яна надаць статус горада толькі ў дачыненні да ўсёй адміністрацыйнай урбанізаванай тэрыторыі данай гміны. Недакладнасць запісу ў законе перакрэслівае магчымасць атрымання гарадскіх правоў якой-кольвечы мясцовасцю ў Рэчыпаспалітай. Уся надзея ў тым, што нававыбраны парламент навелізуе закон аб тэрытарыяльнай самаўправе і справа зрушыцца з месца.

Да 1950 года Кляшчэлі былі горадам. Ініцыятыва, каб вярнуць мясцовасці гэты статус выйшла ад яе жыхароў — за пасрэдніцтвам, вядома ж, Гміннай рады. Мясцовая грамадскасць ужо колькі гадоў намякала на тое, што Кляшчэлі заслугоўваюць на гарадскія правы, але толькі цяпер, пасля грамадска-палітычных пераменаў у краіне, Гмінная рада змагла ўзяць на разгляд гэтае пытанне. Радныя прынялі на



*Войт Аляксандр Сяліцкі.*

сесіі Рады адпаведную пастанову ды падрыхтавалі неабходны пакет дакументаў, які вынікаў з дырэктываў Рады міністраў. Дакументы гэтыя былі прыхільна прыняты Ваяводскім самаўрадавым сеймікам у Беластоку ды адтуль накіраваны ў Раду міністраў.

Кляшчэлі — мясцовасць невялікая, але Аляксандр Сяліцкі, войт кляшчэлеўскай гміны, лічыць, што мае шмат якія горадаўтваральныя чыннікі. Расклад вуліц у Кляшчэлях, які захаваўся там з мінулых стагоддзяў, поўнасцю пацвярджае тым, што мясцовасць павінна быць залічана ў ранг гарадскіх. Кляшчэлі знаходзяцца на шляху Варшава — Гайнаўка — Белавежа. Адлегласць з Кляшчэляў да трох суседніх гарадоў — Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі і Сямяціч — звыш дваццаці кіламетраў. Геаграфія падказвае, што ў гэтым месцы павінен узнікнуць горад.

Кляшчэлеўская моладзь адплывае ў гарады. Адзін той факт, што Кляшчэлі маглі б стаць горадам, паводле Аляксандра Сяліцкага, вызваліў бы ў грамадскасці ахвоту застаццa тут, звязаць з мястэчкам свой жыццёвы лёс. Гарадскі статус Кляшчэляў даў бы магчымасці ўсім тым, якія хочуць жыць і працаваць у гарадскім менавіта асяродку.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**

## ДА РОДНЫХ

( Працяг са стар.1 )

нацыянальнай няволі ўрэшце атрымаў магчымасці ствараць незалежніцкія формы свайго нацыянальнага дзяржаўнага побыту. Будзем верыць, што ўзнікненне самастойнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь будзе спрыяць духоўнаму і матэрыяльнаму росквіту, хаця шлях да яго будзе цяжкі, доўгі і камяністы. І ўсё ж такі новы этап у развіцці нашай нацыі не можа не выклікаць у нашых беларускіх сэрцах радасці і здавальнення, і пачуцця годнасці.

Мы беларусы з Беласточчыны з'яўляемся арганічнай часткай польскай дзяржавы, якая як і ўсе краіны народнай дэмакратыі папала ў цяжкі крызіс. Што мы, беларусы, павінны рабіць у такой сітуацыі? Перш за ўсё не траціць веры. Бязвер'е ў кожнай хваробе мае забойчы характар і шкодзіць яно чалавеку не менней чым сама хвароба. Будзем верыць, што сённяшнія беды пераходныя, і што калі не 1992 дык наступныя гады прынясуць палёгку ў нашым жыцці.

Мае родныя, нельга паддавацца песімізму, нельга апускаць рук, нельга пакідаць ні сваёй рэлігіі, ні сваёй мовы, ні сваёй нацыянальнасці. Адыход ад гэтых атрыбутаў нацыянальнага існавання абазначаў бы нашу смерць. І таму трымаймася ўсяго свайго роднага.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства зробіць усё, каб у наш невясёлы час прынамсі часткова ўзбагаціць беларускае жыццё роднай песняй, роднай паэзіяй і родным словам.

Давайце напярэдадні Новага 1992 года прабачым сабе ўзаемна ўсё тое, што нас раздзяляла, што рабіла з нас ворагаў. Давайце будзем гуртавацца ў радах Беларускага грамадска-культурнага таварыства або іншых беларускіх арганізацый.

Давайце будзем часцей чым дагэтуль сустракацца ў царкве, на беларускіх сходах, канцэртах і фестынах.

Няхай усходняя Беласточчына заквітнее большай колькасцю беларускіх народных калектываў, якія ўжо існуюць у многіх вёсках і расслаўляюць у свеце мясцовыя песні. Няхай беларусы праявяць большую чым дагэтуль ахвярнасць у пабудове Беларускага музея ў Гайнаўцы, няхай больш чым дагэтуль беларускіх дзяцей вывучае ў школах родную мову.

Няхай у кожнай беларускай хаце чытаецца „Ніва", „Беларускія календары" і іншыя беларускія кніжкі, якія выдае Беларускае таварыства.

Дарагія браты і сёстры! Прыміце з выпадку Новага 1992 года ад Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства найлепшыя пажаданні згоды і кахання ў Вашых сем'ях, ажыццяўлення Вашых мараў і планаў, росквіту шчасця ў кожнай беларускай сям'і і ў кожным беларускім доме.

**АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ**
**старшыня ГП БГКТ**

****************************************************

## ЦІ БАГАТАЯ БЕЛАРУСЬ?

( Працяг са стар. 5 )

засталіся „незапатрабаванымі" большасць прамысловых пакладаў Расійскіх калійных солей (60 працэнтаў агульнасаюзных), торфу (91 прац. агульнасаюзных), драўніны (90 прац. агульнасаюзных). Чым не каланіяльная палітыка?

На шчасце, засталіся „нечапанымі" іншыя незлічоныя скарбы Беларусі: жалезныя руды ў колькасці да 1,5 млрд. тон; гаручыя сланцы (паліва, будаўнічы матэрыял, сыравіна для хімічнай прамысловасці) — да 11 млрд. тон; каменны (2,3 млрд. тон) і буры (3 млрд. тон) вугалі; калійныя солі — да 80 млрд. тон; гіпс і ангідрыд — 1 млрд. тон; фасфарыты — 900 млн. тон; невычарпальныя запасы каменнай солі ў колькасці, дастатковай для таго, каб „накармiць" увесь свет. У рэспубліцы адкрыты паклады надзвычай рэдкага мінералу — даўсаніту, якога няма нідзе на тэрыторыі былога СССР. Яго запасы ацэньваюцца ў колькасці звыш 80 млн. тон, а ў выніку перапрацоўкі атрымоўваецца алюміній і пітная сода (да усяго іншага каштоўная сыравіна для вытворчасці шкла). Ёсць немалыя прамысловыя запасы мінеральных расолаў („вадкай руды"), з гэтай сыравіны можна выпрацоўваць ёд, бром, літый, калій, стронцый і многія іншыя элементы. Беларусь можа забяспечваць сябе і вывозіць на продаж граніт, сіліцыты, сапрапель, даламіты, мел, гліны... Так, пад Віцебскам пабудаваны самы буйны ў Еўропе завод даламітавай мукі — з аб'ёмам прадукцыі 7 млн. тон у год. У вялікай колькасці ёсць пітная артэзіянская вада.

Прагноз паказвае, што ў нетрах нашага краю схаваны прамысловыя паклады алмазаў, тытану, меднай руды, свінцу, ртуці, баксітаў, нікелю, ванадыю, бурштыну...

Пры сённяшніх тэмпах здабычы нафты прыкладна 2,3 млн. тон у год яе хопіць на тры дзесяцігоддзі. Адзначым пры гэтым, што, на думку спецыялістаў, кошт 1 тоны беларускай нафты роўны кошту 10 тон сібірскай. Торфу для перапрацоўкі на паліва хопіць на тры з паловай дзесяцігоддзі, для патрэб сельскай гаспадаркі — на 15 год. Рэспубліка забяспечвае сябе палівам на 65 працэнтаў ад патрэб. Многія ў Беларусі лічаць, што рэспубліка не абыйдзецца без усяго комплексу сыравіны, якая завозіцца для яе патрэб. Аднак гэта не так. У СССР створана эканамічна неэфектыўная структура перапрацоўчай прамысловасці, змены ў якой будуць карыснымі для ўсіх народаў былой імперыі. Так, Беларусі няма ніякай патрэбы ўвозіць з Кольскага паўвострава штогод 4 млн. тон фасфарытаў (80 прац. ад неабходнай колькасці), бо запасы ў сваіх нетрах складаюць 900 млн. тон.

Тэрыторыя, размешчаная ў басейне ракі Прыпяць і прылеглыя да яе землі — т. зв. Прыпяцкі прагін — гэта сапраўдны беларускі кландайк. Большасць карысных выкапняў Беларусі залягаюць у яе нетрах. У гэтай сувязі прыходзіць на ўспамін, што пэўная частка высокага і кіраўнічага апарату вобласці — людзі дасведчаныя і спрытныя — настойліва дабіваюцца надання гэтай частцы Беларусі статуса асобай эканамічнай зоны, відавочна, мяркуючы атрымаць права распараджацца багаццямі, якія належаць усяму народу рэспублікі, нашым нашчадкам, усім сынам і дочкам нашай Бацькаўшчыны, хто яшчэ не нарадзіўся. Здзіўляе і насцярожвае і тое, што пэўныя палітычныя групоўкі ў Гомельскай вобласці вядуць настойлівую агітацыю сярод яе жыхароў за правядзенне рэферэндума аб... далучэнні да Расіі. Гэта што, выпадковасць ці разлік дасведчаных у багацьцях нетраў гэтай зямлі асоб?

Нетры Прыпяцкага прагіну, калі скарыстаць сучасныя тэхналогіі, добрую тэхніку, прыкласці талент і працу людзей, станунь асновай для стварэння многіх галін прамысловасці, якіх сёння няма ў Беларусі.

Такім чынам, на пытанне, пастаўленае ў назве гэтага матэрыяла ёсць толькі адзін адказ: Беларусь багатая і на людзей, і на шчодрую зямлю, і на поўныя каштоўных пакладаў яе нетры. І яшчэ больш забагацее, калі народ навучыцца сам распараджацца сваімі скарбамі.

**ЯЎГЕН ЦУМАРАЎ**
народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## АДКАЗ НА РЭЦЭНЗІЮ

( Працяг са стар. 6 )

адносінах да значнай часткі жыхароў паграніччa. Ставіць гэта часта паасобных людзей у сітуацыі ўнутраных канфліктаў, а вонкава праяўляецца ў адыходзе ад нацыянальных спраў.

Я разумею паставу дзеяча, прадстаўніка інтэлектуальнай эліты, які імкнецца пераканаць увесь праваслаўны субстрат Беластоцкага ваяводства да беларускіх вартасцяў, але таксама спадзяюся на зразуменне паставы даследчыка, які хацеў бы сумленна акрэсліць, які зараз стан нацыянальнай свядомасці.

Падкрэсліванне сувязяў польскай нацыянальнай тоеснасці сярод часткі праваслаўнага насельніцтва з акрэсленай палітычнай плынню палякаў або ў Польшчы з'яўляецца непраўдзівае, а прынамсі моцна дыскусійнае. Несумненна, гэта не служыць інтарэсам беларусаў у Польшчы. У кожным народзе знаходзяцца прадстаўнікі ўсялякіх палітычных плыняў. Паказалі на гэта парламенцкія выбары, паказваюць і іншыя палітычныя здарэнні ў краіне. Магчыма, што брак да гэтай пары дэмакратычных традыцый перашкодзіў ім выявіцца сярод беларускай меншасці ў Польшчы. Незадаволенасць жыхароў беларускіх вёсак падобная на незадаволенасць большасці сялян ва ўсёй краіне. Вынікае яна перш за ўсё з рэакцыі на горшыя ўмовы жыцця на вёсцы.

Не маю нічога супраць таму, што рэцэнзент у розны спосаб апісваў сваіх знаёмых (сёння яны палякі, заўтра — беларусы, і т.п.), але не згаджаюся з тым, каб людзей, якія акрэсліваюць сябе праваслаўнымі палякамі ацэньваць адмоўна, бо інструментальна трактуюць сваю нацыянальную прыналежнасць. Пытанне выбару нацыянальнай прыналежнасці гэта не вынік часовага настрою, але пераважна прадукт працяглага гістарычнага працэсу.

Многія жыхары шчыра і сумленна пытаюць, хто яны сапраўды. На такое пытанне кожны сам павінен знайсці адказ. Іншым трэба стварыць такія ўмовы, каб працэс фармавання нацыянальнай тоеснасці праходзіў у варунках свабоднага выбару, без вонкавай прэсіі.

Не палемізую з заўвагамі гістарычнага тыпу. У большасці прыкладаў рэцэнзент падрываў не мае сцвярджэнні, але цытаваных мною (і шанаваных) аўтарытэтаў з галіны сучаснай гісторыі Беларусі і беларусаў. Трэба было б пачаць асобную дыскусію наконт фактаў і іх інтэрпрэтацыі, дзе магчымая дыферэнцыяцыя форм паясненняў. Напрыклад, згаджаюся з закідам рэцэнзента, што Беларуская хрысціянская дэмакратыя праграмна была нават антыпольская. У сваёй працы я гаварыў толькі аб яе сувязях з асяроддзямі з прапольскімі паставамі. Менавіта, калі ў акрэсленай арганізацыі ўводзяцца забароны, то трэба іх трактаваць як праяву сітуацыі, у якой прынцыпы забароны наогул парушаюцца. Вось на з'ездзе гэтай партыі 25 лістапада 1928 г. быў прыняты пратэст супраць паланізацыйнай палітыкі віленскіх уладаў Каталіцкага касцёла, якая вялася сярод беларускага насельніцтва. Прыпомню толькі, што партыя мела каталіцкі характар, і таму яе члены і сімпатыкі гэта перш за ўсё сяляне, а нат духоўнікі каталіцкага веравызнання.

У прынцыпе была гэта адзіная легальная беларуская партыя ў Польшчы ў палове трыццатых гадоў. Яе члены і сімпатыкі знаходзіліся між іншым у Віленска-троцкім, Свянцянскім, Лідскім паветах, менавіта там, дзе зараз пражывае значная частка польскай нацыянальнай меншасці ў Літве. Не думаю, што прыпісванне прапольскіх паставаў гэтай часткі грамадства ў міжваенны перыяд станавіла адыход ад гістарычнай праўды. Гістарычныя пытанні можна і трэба аналізаваць спакойна. Думаю, аднак, што прыняццё паставы чалавека, які вырашае, што згоднае з праўдай, а што не, гэта проста праява адсутнасці такту і сціпласці ў рэцэнзента.

Часта падкрэсліваецца, што навуковы супрацоўнік наспытае „пазнавальныя дрыжыкі" асабліва тады, калі сапраўды адкрывае, што справа выглядае зусім інакш, чым яе раней прадстаўлялі. Мабыць тут трэба было б і шукаць прычыны імкненняў да крытычных заўваг звыш неабходныя патрэбы.

**Андрэй Садоўскі**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Новагодняя цішыня. *Фота У. Завадскага.*

## ЗА СВЯТОЧНЫМ СТАЛОМ

Адлюстраванне на экране тэлевізара ў апошні раз міргранула і знікла.

— Можа, пастукаць? — прапанаваў нехта з гасцей.

— Марная справа, — махнуў рукой гаспадар. — Трубка села.

— Запанавала няёмкае маўчанне, якое бывае ў ліфце паміж выпадковымі спадарожнікамі. Толькі мамін брат дзядзька Косця пахрустваў курынымі костачкамі, даядаючы смажаніну.

— Ты чаго гэта не ясі, Славік? — звярнуўся раптам гаспадар да свайго шасцігадовага сына.

— Не хачу.

— Як гэта — не хачу?! — абурыліся госці. — Ты так ніколі не вырасцеш.

— Кім ты марыш стаць? — спытаў хлопчыка дзядзька Косця. — Лётчыкам, нябось?

— Не.

— А кім? Пагранічнікам? Каб шпіёнаў лавіць?

— Я стану шафёрам, — адказаў Слаўка.

— Таксама добра. А ці ведаеш ты, што шафер, калі дрэнна будзе есці, ні за што не здолее ўтрымаць руль? Нагрузка ў шафёра, да тваго ведання, амаль такая ж, як у штангістаў.

Слаўка недаверліва хмыкнуў.

— Ну, няхай не ў штангіста, увогуле, трэба есці...

Госці ўважліва прасачылі, як Слаўка запхнуў у рот некалькі лыжак салата.

— Гэта ўсё? — ахнулі яны, калі той адсунуў ад сябе талерку.

— Я больш не магу! — ледзь не расплакаўся хлопчык.

— Ну, калі не можаш... — засмучана здаліся госці.

— І якую ж машыну ты хочаш вадзіць? — пацікавіўся брат бацькі дзядзька Сярожа. — Напэўна, вялікую-вялікую?

— Звычайную, — сказаў Слаўка. — „ГАЗ-52" ці „ЗІЛ-130".

— А як ездзіць будзеш? Хутка-хутка?

— Хто ж дазволіць? Аўтаінспектар адразу ж аштрафуе.

— Ён у нас будзе самым лепшым шафёрам, — ласкава прамурлыкала мама і пагладзіла Слаўку па галаве.

Слаўка незадаволена заёрзаў.

— Можна, я выйду? — папрасіўся ён.

— Куды? — перапалохаліся бацькі.

— Спаць яшчэ рана.

— Мне трэба, — пакутліва пачырванеўшы, сказаў Слаўка.

Нехта вельмі неахвотна адсунуў крэсла, прапускаючы хлопчыка.

Слаўка куляй выляцеў на лесвічную пляцоўку і пазваніў у кватэру, дзе жыў яго сябра Пецька.

— Дапаможаш? — выдыхнуў ён, калі дзверы адчыніліся. — У нашых тэлевізар сапсаваўся. Што рабіць, пра што гаварыць — не ведаюць. Учапіліся за мяне. Спачатку закормлівалі, пасля сюсюкаць пачалі. Калі не дасі свой пераносны тэлевізар — задзяўбуць!

Трохі счакаўшы Слаўка працягнуў бацьку партатыўны каляровы тэлевізар. Задаволеныя госці зноў прыпалі да экрана „Электронікі", сталі даглядаць забаўляльную навагоднюю праграму. Слаўку пакінулі ў спакоі. Дарослых ён больш не цікавіў.

**УЛАДЗІМІР РУДАЎ**

**Пераклаў Валеры Бабей**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

### САНКІ

— Паўлік, чаму ты не даеш санкі брацiку? — пытаецца мама.

— Як не даю?! Заўсёды, як з'еду на санках з горкі, даю яму зацягнуць іх наверх!

### ДОБРЫ МАЙСТАР

Марыйка:

— Грышка, твой малаток забівае цвікі як маланка!

— Па-твойму, я працую так хутка?

— Не, але ты ніколі не пападаеш двойчы ў адно і тое ж месца!

### МІЛАСЭРНЫ

— Мама, дайце 25 цэнтаў для таго хлопчыка, які крычыць на вуліцы.

— А пра што ён крычыць?

— „Вялікая порцыя марозіва — 25 цэнтаў!"

### ДЗІЎНАЯ ШКОЛА

— Ведаеш, мама, з нашай школай нейкая дзіўная справа: настаўнікі нічога не ведаюць. бо заўсёды нас пра ўсё пытаюцца, а мы таксама нічога не ведаем!

**(В.Б.)**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК ПЯЧЭ ТОРТ

Аднойчы ночай пабегла Пік-Пік на кухню за прысмакамі, і не знайшла нічога прыстойнага. Ну хіба гэта ежа — чорны хлеб! Салёнае сала! Толькі з галадухі. Есці трэба тарты!

І тут мышцы ў разумную галоўку прыйшла ідэя: „Спяку торт! Нічога складанага! Я ж бачыла, як гэта робіць мама".

Дастала мышка вялізную місу, выцягнула яе на сярэдзіну кухні. „Торт мусіць быць вялікі!" — і перакуліла туды цэлы пачак мукі. І кухня, і мышка зрабіліся белыя. „Цяпер трэба малака!" — падумала мышка і вывернула ў місу пачак малака. „Ну вось і цеста! Нечага толькі не хапае. Яек, ці што?"

Адчыніла мышка халадзільнік, павыкідала адтуль у місу яйкі. Паглядзела. „Пабіць, ці што? Ай, абыдзецца. Цяпер — самае галоўнае. Торт павінен быць салодкім!" — і мышка высыпала ў місу пачак цукру. „Малавата!" — высыпала яшчэ пачак. „Ну, вось і ўсё. Засталося размяшаць цеста". І мышка Пік-Пік узяла вялікую драўляную лыжку і пачала размешваць цеста. Але яно чамусьці не размешвалася. Кінула Пік-Пік лыжку і паспрабавала размешваць лапкай. Але лапка адразу ўвязла ў цесце. Паспрабавала мышка вызваліцца — і другая лапка ўвязла. Адпіхнулася Пік-Пік ножкамі, падскочыла — і ножкі ў цесце апынуліся. Валтузілася мышка ў місе, валтузілася, пасля пачала крычаць: „Ратуйце!" Прыбегла котка Пепіта. Бачыць — пасярод кухні — міса, у місе нешта белае і дрыгаецца. Хацела Пепіта дастаць з цеста тое, што дрыгалася, і сама прыклеілася да яго. Змагалася Пепіта з цестам, змагалася, пакуль цеста яе ў місу не ўцягнула. Цяпер Пепіта і Пік-Пік закрычалі разам: „Ратуйце!"

Прыбеглі на кухню мама і Веранічка. Бачаць: кухня белая ад мукі, валяюцца пустыя пачкі з-пад цукру і малака, пасярэдзіне стаіць вялікая міса, а ў місе — дрыгаюцца два белыя прывіды. Цеста заляпіла мышцы Пік-Пік і котцы Пепіце і раты, і вочкі, і яны, небаракі, маглі толькі лапкамі махаць.

„А ну, Веранічка, — сказала мама, — давай мы гэта пад кран занясем!" Узяліся яны за місу і занеслі яе ў ванну. Уключыла мама ваду і паставіла пад струмень місу. Вада размыла ліпучае цеста, і ўрэшце-рэшт мышка Пік-Пік і котка Пепіта ад яго вызваліліся.

„Ну! — строга сказала мама. — Што гэта вы такое ўтварылі?"

„Гэта ўсяго толькі торцік, невялічкі такі, звычайненькі торцік," — піснула мышка Пік-Пік і выскачыла з ванны.

„А кухню хто мыць будзе?" — закрычалі ёй услед Веранічка, мама і Пепіта. Але мышка ўжо сядзела ў норцы і аблізвалася: поўсць на ёй зрабілася салодкая, як цукерачка.

**Людміла Рублеўская**



# У ШКОЛЕ Ў ТРАСЦЯНЦЫ

Школа ў Трасцянцы дзецям з горада здасца маленькай. І сапраўды яна невялікая. Аднапавярховы будынак, у якім 67 вучняў. Ды яшчэ ў прадшкольным аддзеле шасцёра дзетак.

Вучацца тут дзеці польскай і беларускай нацыянальнасцяў. Амаль усе беларусы вывучаюць родную мову. У класах 2-4 на ўрокі беларускай мовы ходзіць дзесяцёра вучняў, навучае іх Анна Мінько. Старэйшых — 25 асоб — вучыць Галена Тапалянская.

Пані Галена, як і ўсе настаўнікі беларускай мовы, наракае на перастарэлыя падручнікі. Некаторыя з іх надрукаваныя былі яшчэ ў 1976, 77, 78 гадах. Ад гэтага часу столькі ж змянілася!

Але пані Галена іншымі спосабамі стараецца як найпаўней падключыць сваіх выхаванкаў да беларускага жыцця, чытае ім „Ніву", прыпамінае, калі па-радыё транслююцца беларускія перадачы. Дзеці вельмі актыўна прымаюць удзел ва ўсіх конкурсах, арганізаваных „Зоркай" і беларускай праграмай „Для школы і для дому" Беластоцкага радыё. Дасылаюць свае малюнкі, літаратурныя спробы, пішуць лісты.

Пані Галена ўзгадавала ўжо не адно пакаленне свядомых беларусаў. Можна сказаць, што прысвяціла гэтаму цэлае сваё жыццё — у школе працуе звыш 35 год.

„Зорка" жадае заслужанай настаўніцы шмат задавальнення са сваёй працы і ў будучыні, каб вучні, якія сфатаграфаваліся са сваімі настаўніцамі выраслі на добрых людзей і шчырых беларусаў.

**(М.В.)**



*Яны ўсе вывучаюць беларускую мову.*

## ВЕРШЫ ПРА РОДНУЮ МОВУ

### АЛЯКСЕЙ РУСЕЦКІ

... Мова маці... Па-былому зноў  
адчуваў з прыездам Пастушэня  
гучны лад яе пявучых слоў,  
іх вагу, і сілу, і значэнне.  
З ёю стаў з маленства дарагім  
нам абшар бязмежнае Радзімы;  
толькі дзе б далёка ні жылі мы,  
а заўсёды роднай мовай снім.  
Марым, снім і мімаволі мусім  
думкай мераць доўгія шляхі  
да азёр і вежаў Беларусі,  
да лясной і жытняе смугі;  
да кутка, дзе мова роднай маці  
нам адкрыла багацці  
песень, казак, неспакойных дум...

### СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

Мы трацім слова,  
Мы нямеем  
І хвалімся,  
Што ўжо не ўмеем  
Так гаварыць,  
Як наша маці,  
І дарагую песню  
Трацім.  
А з ёю цяжка  
Разлучыцца —  
Лягчэй забыць,  
Як навучыцца.

### ВАСІЛЬ КОЦІКАЎ

## ЦІ БЫВАЕ ТАК?

Слон забраўся на  
гарышча,  
Як дракон, рычыць і  
свішча,  
Хто адкажа хутка мне,  
Гэта праўда або не?

Воўк ад мышкі уцякае,  
Снегам пяты апякае.  
Хто адкажа хутка мне,  
Гэта праўда або не?

Узляцеў у неба кіт,  
Загарнуўся у блакіт.  
Хто адкажа хутка мне,  
Гэта праўда або не?

Крочыў Вася на раку,  
Сонца вёў ён за руку.  
Дай мне хуценька адказ:  
— Ты хадзіў вось так  
хоць раз?



# ПАЗНАЁМІМСЯ

*Добры дзень, паважаная „Зорка!" Піша табе вучаніца 6 „Б" класа, сярэдняй школы нумар 2, г.п. Мікашэвічы Бугук Людміла.*

*„Зорка!" Я хачу табе расказаць аб сваім любімым занятку.*

*Я вельмі люблю варыць з матуляй ежу. Гэта так цікава! Калі цяжка гатаваць што-небудзь упершыню, я спачатку назіраю за матуляй, а ўжо ў другі раз ёй дапамагаю. Я для цябе, „Зорка", падрыхтавала тры рэцэпты.*

### ТОРТ „ПТУШЫНАЕ МАЛАКО".

Змяшаць сталовую лыжку какавы, 1 шклянку смятаны, 1 яйка, 1 шклянку цукру, 1 шклянку мукі і палову чайнай лыжкі соды. Узбіць і спячы ў духоўцы на вялікай патэльні. Зварыць манную кашу (1 шклянка малака, 2 сталовыя лыжкі крупы). Ахаладзіць і змяшаць з папярэдняя ўзбітай сумессю (200 грам масла, 1 шклянка цукру), зноў узбіць да пышнай масы. Дадаць сок паловы лімона. Крэм палажыць на корж. Заліць растопленым шакаладам (100 грам шакалада растапіць у сталовай лыжцы малака) і на 15 хвілін паставіць на холад.

### ФРУКТОВЫ НАПІТАК

Змешваюць сок з розных свежых фруктаў, даліваюць невялікую колькасць вады і сталовага віна, а таксама лімонны сок і цукар, і ставяць у халадзільнік. (Гэты напітак можна гатаваць таксама з сокаў кансерваваных фруктаў).

### ХАЛОДНАЯ ЛІМОННАЯ ГАРБАТА

Заварваюць моцную гарбату, дадаюць каньяк і цукар. Калі напітак астыне, дадаюць добра газіраваную мінеральную ваду (у прапорцыі 3:1), уліваюць у бутэльку, добра закупорваюць і ставяць у халадзільнік.

„Зорка!" Я хачу пасябраваць з польскай дзяўчынкай, якой таксама падабаецца гатаваць.

Мой адрас:  
Беларусь, 225610  
Брэсцкая вобласць  
Лунінецкі раён  
г.п. Мікашэвічы  
вуліца Першамайская  
д. 89, кв. 2

**Бугук Людміла**

**Кіяс Меджыдаў**

### ЯК ЗАЯЦ ПЕРАХІТРЫЎ САБАК

Чэрвень. Над лугам нерухома стаяў густы водар траў. Чуўся ціхі, але бесперапынны гуд: гудзелі пчолы, цвыркалі цвыркуны, лёталі лёгкакрылыя матылькі, гойсалі ў паветры стракозы. Са мною побач не было чалавека, але я сябе адзінокім не пачуваў: вакол родныя, з дзяцінства любімыя і блізкія лугі і горы.

Раптам раздаўся адрывісты брэх. Я ўзбег на ўзгорак і агледзеўся: дзве паляўнічыя сабакі гналіся за зайцам. Я хацеў быў стрэліць угору і адцягнуць іх увагу ад зайца — паляванне ж было забаронена! — але сабакі спыніліся: заяц знік, быццам скрозь зямлю праваліўся.

Прыглядзеўся я і заўважыў зайца. Ён сядзеў у капошыне, потым ускочыў, азірнуўся і кінуўся бегчы далей. Ён імчаўся з боку ў бок па кустах дзікай канюшыны, узнімаючы за сабою жоўты пыл. Пятляючы, заяц спыніўся непадалёк ад мяне. Кусы здорава падмапуў сабак: дзікая канюшына дапамагла сваім вострым водарам зайцавай шубе згубіць свой спецыфічны пах.

Вось такім чынам заяц выратаваўся ад сабак.

А абараніць сябе ад драпежцаў умее далёка не кожны. Для гэтага патрэбны вытрымка, знаходлівасць і лоўкасць. Усімі гэтымі якасцямі і валодае наш заяц, якога часам дарма завуць трусам...

**Пераклаў з лезгінскай мовы Пятрусь Капчык**

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



**Палічы.**

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV.СУЧАСНАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА ЛЕКСІКАЛОГІЯ

**8.Іншамоўныя словы ў лексічнай сістэме беларускай мовы — працяг**

**Балтызмы**

Шырокае распаўсюджанне на славянскай моўнай тэрыторыі балтызмаў, месцам асноўнай канцэнтрацыі якіх з'яўляюцца беларускія гаворкі, абумоўлена балта-славянскімі кантактамі ў мінулым. Тэрытарыяльная блізкасць, а нават сужыццё балтаў і беларусаў на той самай тэрыторыі, у межах адной дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, спрыяла праніканню слоў з адной мовы ў другую.

Балтызмы можна падзяліць на дзве групы: субстратныя і адстратныя.

**Субстратныя балтызмы,** у адрозненне ад запазычанняў, звязаны з этнічнай змешанасцю і моўнай асіміляцыяй пазнейшым насельніцтвам (славянскім) карэннага насельніцтва (балтаў), якая праходзіла праз стадыю двухмоўя (білінгвізму).

**Адстратныя балтызмы** паявіліся ў выніку ўплыву балтыйскіх моў на беларскую мову ва ўмовах доўгага суіснавання і кантактавання гэтых народаў. Абазначае гэта нейтральны тып узаемнага моўнага ўплыву, пры якім не назіраецца этнічная асіміляцыя і растварэнне адной мовы ў другой.

Запазычанні з балтыйскіх моў (літоўскай, латышскай) даследчыкамі балта-славянскіх моўных узаема-адносін падзяляюцца на некалькі храналагічных пластоў. „Так, мяркуюць, што адны балтызмы былі засвоены сялянамі яшчэ ў агульнаславянскую эпоху (напрыклад, *русло* паходзіць, напэўна, ад тэарэтычна рэканструяванага старажытналітоўскага *rauslo* і *rusti* (рыць); *скарада* (баранасукаватка), *скарадзіць* паходзіць, напэўна, ад літоўскага *skardyti* (разрыхляць, раздрабляць), другія — ў агульнаўсходнеславянскі перыяд (напрыклад, назва рэчкі *Полата* паходзіць, напэўна, ад этнічнай назвы латышоў *Lata*–Palata, параўн. таксама назву вёскі *Латыголь* каля Сянно), трэція — у пазнейшыя часы."1

У эпоху старабеларускай пісьменнасці балтызмы ў першую чаргу пранікалі ў народна-дыялектнае асяроддзе, а праз яго — у літаратурную мову. Гэта былі перш за ўсё словы гаспадарча-бытавога выкарыстання. Адны з іх захаваліся ў беларускай літаратурнай мове, напр.: *атоса, дзірван, дойлід, ёўня, пуня, свіран, сціпта*, другія — у дыялектнай мове, напр.: *клуня, крушня, пакулле, ройст, скаба*.2

Толькі нязначная колькасць балтызмаў, якія выступалі ў старабеларускі перыяд, захавалася да сёння ў беларускай мове.3

У залежнасці ад значэння, сярод балтызмаў выдзяляюцца назвы:

— гаспадарчых пабудоў: *ёўня, клуня, пуня, свіран, сядзіба;*

— прылад, прадметаў і прадуктаў працы: *венцер, коўш, мянташка, рэзгіны*;

— страў: *груца, крупеня*;

— сельскагаспадарчых паняццяў: *гірса, дзірван, тарма, сціпта*.4

Паводле Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы як дыялектызмы ў беларускай мове выступаюць пададзеныя ніжэй запазычаныя словы літоўскага і латышскага паходжання. Можна іх падзяліць на чатыры групы:

1. тыя, якія выступаюць аж у чатырох славянскіх мовах: беларускай, польскай, украінскай і рускай, напр., *алёс* – лат. *alots*; *жлукта* – літ. *zluktas, zluktis, zlugtas*; *клуня* – літ. *kluonas*, лат. *kluons*; *пелька* – літ. *pelke*; *путра* – літ. *putra*;

2. тыя, якія выступаюць у трох славянскіх мовах:

— беларускай, польскай і ўкраінскай, напр.: *скарач* літ. дыял. *skaroczius*,

— беларускай, польскай і рускай, напр.: *аруд* – літ. *aruodas*, лат. *aruods; лупа* – літ. *lupa*;

3. тыя, якія выступаюць у дзвюх мовах:

— беларускай і польскай, напр.: *восілка* – літ. *asele, usele*,

— беларускай і рускай, напр.: *асвер* –лат. *svira, svere*; *скаба* – літ. *skaba*;

4. тыя, якія выступаюць толькі ў беларускай мове, напр.: *крумкаць* – літ. *krankti, krunkti; тоўпіцца* – літ. *tal-pinti(s)*.5

Апрача агульных назваў, запазычаных з балтыйскіх моў, у беларускай мове знайшлі пэўнае адлюстраванне ўласныя імёны (прозвішчы) і геаграфічныя назвы. Да літоўскіх могуць быць аднесены, між іншым, такія прозвішчы, як: *Мікшта, Лукша, Ругойша, Рымша, Цюкша, Гражуль, Войшаль, Юргель, Вяль, Пашкель, Кумпінь, Пукста, Юройць, Ясюкайціс* і наступныя геаграфічныя назвы: *Руды, Рудагай, Рудуцішкі, Рудзеляй, Ятвізь, Ятвеск, Рындзюны, Кемялішкі, Лынтупы, Нарэйшы, Гервяты, Жупраны, Ашмяны*.6

———————

1. Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія, Мінск 1961, с.157.

2. А. А. Станкевіч, Аб лінгвагеаграфічным вывучэнні балтызмаў у беларускіх гаворках, у: Беларуская мова, вып. 15, Мінск 1987, с. 12.

3. Дакладную характарыстыку старaславянскіх балтызмаў з увагі на іх прысутнасць ці адсутнасць у сучаснай беларускай мове можна знайсці ў артыкуле: Р. Й. Дайлідэнас, Лексічная адаптацыя старабеларускіх літуанізмаў, у: Беларуская мова, вып. 15, Мінск 1987, с. 73—83.

4. Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 55.

5. Для характарыстыкі распаўсюджання гэтых балтызмаў выкарыстана працу Ю. А. Лаўчюте, Словарь балтизмов в словянских языках, Ленинград 1982.

6. Курс..., с. 159—160.

# Зорка

*Словы і музыка Язэпа Карпюка.*




Зорка ў небе ноч асвятляе,
Па цэлым свеце паведамляе,
Што ў Віфліеме, паміж быдляцьмі,
Радзіла сыночка, сыночка радзіла,
Сыночка святога
Божая маці.

Марыя Дзева Хрыста радзіла.
Сена сухога там пасцяліла.
Анел, пастыры ўміг прыбываюць,
Дзіцятка Божае, Божае Дзіцятка,
Дзіцятка Святое
У яслях вітаюць.

Зорка у небе святым сіяе,
З кожнага боку ўсіх прызывае.
Ідуць народы, манархі-цары,
Паклон аддаюць, аддаюць поклан,
Паклон аддаюць,
Складаюць дары.

## КАСЯК НА „Л"

**Управа:** 1) яго помнікаў было найбольш, 3) адзінка вымярэння светлавога патоку, 5) скопішча вялікай масы паўзучага лёду, 7) над вачамі, 9) старажытная хроніка, 12) прылада з дзяржаннем і шырокім плоскім ніжнім канцом, 14) можа быць канцэнтрацыйны, 15) паглыбленне з вадой або гряззю.

**Улева:** 2) многа дрэў, 4) яго проста „носяць на руках", 6) дзіцячая мова, 8) гультай, абібок, 10) салодкі напітак, 11) любіць паласавацца, 13) самка лася, 16) пара года.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.







„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Янка Целушэцкі (карэктар), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..
Cena prenumeraty miesięcznej:
- styczeń - 12 000 zł.
- luty - 12 000 zł.
- marzec - 15 000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

## СТУДЗЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **19** | **С** | Цімафея |
| 2 | 20 | Ч | Данілы |
| 3 | 21 | П | Ульяны |
| 4 | 22 | С | Анастасіі |
| **5** | **23** | **Н** | **Паўла** |
| 6 | 24 | П | Куцця |
| 7 | 25 | А | *Каляды* |
| 8 | 26 | С | *Др.Дз.Каляд* |
| 9 | 27 | Ч | Сцяпана |
| 10 | 28 | П | Дарафея |
| 11 | 29 | С | Марка |
| **12** | **30** | **Н** | **Аніссі** |
| 13 | 31 | П | *Шчодры Вечар* |
| 14 | 1 | А | *Новы Год* |
| 15 | 2 | С | Серафіма |
| 16 | 3 | Ч | Гардзея |
| 17 | 4 | П | Яна |
| 18 | 5 | С | Апалінарыі |
| **19** | **6** | **Н** | **Вадохрышча** |
| 20 | 7 | П | *Іаана Хрысц.* |
| 21 | 8 | А | Георгія |
| 22 | 9 | С | Філіпа |
| 23 | 10 | Ч | Рыгора |
| 24 | 11 | П | Міхаіла |
| 25 | 12 | С | Тацяны |
| **26** | **13** | **Н** | **Ярміла** |
| 27 | 14 | П | Ніны |
| 28 | 15 | А | Прохара |
| 29 | 16 | С | Леаніды |
| 30 | 17 | Ч | Антона |
| 31 | 18 | П | Апанаса |

## ЛЮТЫ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | С | Макара |
| **2** | **20** | **Н** | **Іны** |
| 3 | 21 | П | Максіма |
| 4 | 22 | А | Лявонція |
| 5 | 23 | С | Генадзія |
| 6 | 24 | Ч | Герасіма |
| 7 | 25 | П | Аляксандра |
| 8 | 26 | С | Аркадзя |
| **9** | **27** | **Н** | **Івана** |
| 10 | 28 | П | Яфрэма |
| 11 | 29 | А | Ігната |
| 12 | 30 | С | Васіля |
| 13 | 31 | Ч | Мікіты |
| 14 | 1 | П | Трыфана |
| 15 | 2 | С | *Грамніцы* |
| **16** | **3** | **Н** | **Рамана** |
| 17 | 4 | П | Сідара |
| 18 | 5 | А | Агаты |
| 19 | 6 | С | Марфы |
| 20 | 7 | Ч | Парфена |
| 21 | 8 | П | Захара |
| 22 | 9 | С | Інакенція |
| **23** | **10** | **Н** | **Ганны** |
| 24 | 11 | П | Дзмітрыя |
| 25 | 12 | А | Аляксея |
| 26 | 13 | С | Зоі |
| 27 | 14 | Ч | Кірыла |
| 28 | 15 | П | Аніса |
| 29 | 16 | С | Касіяна |

## САКАВІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **17** | **Н** | **Памфіла** |
| 2 | 18 | П | Фёдара |
| 3 | 19 | А | Льва |
| 4 | 20 | С | Архіпа |
| 5 | 21 | Ч | Карніла |
| 6 | 22 | П | Цімафея |
| 7 | 23 | С | Піліпа |
| **8** | **24** | **Н** | **Аляксандра** |
| 9 | 25 | П | Івана |
| 10 | 26 | А | Тараса |
| 11 | 27 | С | Парфірыя |
| 12 | 28 | Ч | Пракопа |
| 13 | 29 | П | Васіля |
| 14 | 1 | С | Еўдакіі |
| **15** | **2** | **Н** | **Запусты** |
| 16 | 3 | П | Зянона |
| 17 | 4 | А | Вячаслава |
| 18 | 5 | С | Давыда |
| 19 | 6 | Ч | Аркадзія |
| 20 | 7 | П | Паўла |
| 21 | 8 | С | Апанаса |
| **22** | **9** | **Н** | **Валерыя** |
| 23 | 10 | П | Леаніда |
| 24 | 11 | А | Марка |
| 25 | 12 | С | Сымона |
| 26 | 13 | Ч | Нікіфара |
| 27 | 14 | П | Расціслава |
| 28 | 15 | С | Анелі |
| **29** | **16** | **Н** | **Юльяна** |
| 30 | 17 | П | Аляксея |
| 31 | 18 | А | Трафіма |

## КРАСАВІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | С | Дар'і |
| 2 | 20 | Ч | Святланы |
| 3 | 21 | П | Якуба |
| 4 | 22 | С | Васіля |
| **5** | **23** | **Н** | **Нікана** |
| 6 | 24 | П | Арцёма |
| 7 | 25 | А | *Благавешчанне* |
| 8 | 26 | С | Алы |
| 9 | 27 | Ч | Матруны |
| 10 | 28 | П | Ларывона |
| 11 | 29 | С | Марка |
| **12** | **30** | **Н** | **Панцялея** |
| 13 | 31 | П | Іпація |
| 14 | 1 | А | Марыі |
| 15 | 2 | С | Палікарпа |
| 16 | 3 | Ч | Мікіты |
| 17 | 4 | П | Восіпа |
| 18 | 5 | С | *Лазарава Субота* |
| **19** | **6** | **Н** | **Вербніца** |
| **20** | **7** | **П** | Георгія |
| 21 | 8 | А | Радзівона |
| 22 | 9 | С | Вадзіма |
| 23 | 10 | Ч | Цярэнція |
| 24 | 11 | П | Анціпа |
| 25 | 12 | С | Ярослава |
| **26** | **13** | **Н** | **Вялікдзень** |
| 27 | 14 | П | *Др.Дз.Вялікадня* |
| 28 | 15 | А | Трафіма |
| 29 | 16 | С | Леаніда |
| 30 | 17 | Ч | Засіма |

## МАЙ

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **18** | **П** | Макара |
| 2 | 19 | С | Нікіфара |
| **3** | **20** | **Н** | **Гаўрылы Забл.** |
| 4 | 21 | П | Януарыя |
| 5 | 22 | А | Віталя |
| 6 | 23 | **С** | *Юрыя* |
| 7 | 24 | Ч | Валянціна |
| 8 | 25 | П | Сільвестра |
| 9 | 26 | С | Сцяпана |
| **10** | **27** | **Н** | **Сямёна** |
| 11 | 28 | П | Кірыла |
| 12 | 29 | А | Арцёма |
| 13 | 30 | С | Якава |
| 14 | 1 | Ч | Марыі |
| 15 | 2 | П | Барыса |
| 16 | 3 | С | Цімафея |
| **17** | **4** | **Н** | **Пелагеі** |
| 18 | 5 | П | Ірыны |
| 19 | 6 | А | Міхея |
| 20 | 7 | **С** | *40 муч.* |
| 21 | 8 | Ч | Арсеня |
| 22 | 9 | П | *Мікалая* |
| 23 | 10 | С | Сымона |
| **24** | **11** | **Н** | **Макея** |
| 25 | 12 | П | Германа |
| 26 | 13 | А | Акуліны |
| 27 | 14 | С | Максіма |
| 28 | 15 | Ч | Дзмітрыя |
| 29 | 16 | П | Лаўрэна |
| 30 | 17 | С | Ефрасінні |
| **31** | **18** | **Н** | **Фядота** |

## ЧЭРВЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | П | Івана |
| 2 | 20 | А | Аляксея |
| 3 | 21 | С | Кастуся |
| 4 | 22 | Ч | *Ушэсце* |
| 5 | 23 | П | *Ефр.Полацк.* |
| 6 | 24 | С | Лаўрэнція |
| **7** | **25** | **Н** | **Івана** |
| 8 | 26 | П | Макара |
| 9 | 27 | А | Ніла |
| 10 | 28 | С | Ігната |
| 11 | 29 | Ч | Фядоссі |
| 12 | 30 | П | Ісака |
| 13 | 31 | С | Ерамея |
| **14** | **1** | **Н** | **Сёмуха** |
| 15 | 2 | П | *Св.Духа* |
| 16 | 3 | А | Дзмітрыя |
| 17 | 4 | С | Мітрафана |
| **18** | **5** | **Ч** | Ігара |
| 19 | 6 | П | Сасанны |
| 20 | 7 | С | Валерыі |
| **21** | **8** | **Н** | **Фёдара** |
| 22 | 9 | П | Кірыла |
| 23 | 10 | А | Васіля |
| 24 | 11 | С | Варфаламея |
| 25 | 12 | Ч | *Св.Ануфрыя* |
| 26 | 13 | П | Акуліны |
| 27 | 14 | С | Мсціслава |
| **28** | **15** | **Н** | **Рыгора** |
| 29 | 16 | П | Ціхана |
| 30 | 17 | А | Варлама |

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР 1992 ГОД







## ЛІПЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | С | Лявонція |
| 2 | 19 | Ч | Паісія |
| 3 | 20 | П | Рыммы |
| 4 | 21 | С | Юльяна |
| **5** | **22** | **Н** | **Яўсея** |
| 6 | 23 | П | Арцёма |
| 7 | 24 | А | *Яна Хрысц.* |
| 8 | 25 | С | Пятра |
| 9 | 26 | Ч | Софіі |
| 10 | 27 | П | Самсона |
| 11 | 28 | С | Сяргея |
| **12** | **29** | **Н** | **Пятра і Паўла** |
| 13 | 30 | П | Мацвея |
| 14 | 1 | А | Кузьмы |
| 15 | 2 | С | Фоція |
| 16 | 3 | Ч | Анатоля |
| 17 | 4 | П | Андрэя |
| 18 | 5 | С | Апанаса |
| **19** | **6** | **Н** | **Валянціна** |
| 20 | 7 | П | Фамы |
| 21 | 8 | А | Пракопа |
| 22 | 9 | С | Панкрата |
| 23 | 10 | Ч | Антона |
| 24 | 11 | П | Вольгі |
| 25 | 12 | С | Міхаіла |
| **26** | **13** | **Н** | **Міраславы** |
| 27 | 14 | П | Анісіма |
| 28 | 15 | А | Уладзіміра |
| 29 | 16 | С | Афінагена |
| 30 | 17 | Ч | Марыны |
| 31 | 18 | П | Емяльяна |

## ЖНІВЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | С | Макрыны |
| **2** | **20** | **Н** | **Св.Ільі** |
| 3 | 21 | П | Сямёна |
| 4 | 22 | А | Марыі |
| 5 | 23 | С | Трафіма |
| 6 | 24 | Ч | Барыса |
| 7 | 25 | П | *Ганны* |
| 8 | 26 | С | Ермалая |
| **9** | **27** | **Н** | **Панцялея** |
| 10 | 28 | П | *Смолен.Ік.БМ.* |
| 11 | 29 | А | Кастуся |
| 12 | 30 | С | Максіма |
| 13 | 31 | Ч | Еўдакіма |
| 14 | 1 | П | *Маккавеяў* |
| **15** | **2** | **С** | Сцяпана |
| **16** | **3** | **Н** | **Антона** |
| 17 | 4 | П | Еўдакіі |
| 18 | 5 | А | Ноны |
| 19 | 6 | С | *Спаса* |
| 20 | 7 | Ч | Пімена |
| 21 | 8 | П | Мірона |
| 22 | 9 | С | Мацвея |
| **23** | **10** | **Н** | **Рамана** |
| 24 | 11 | П | Фёдара |
| 25 | 12 | А | Аляксандра |
| 26 | 13 | С | Ціхана |
| 27 | 14 | Ч | Аркадзя |
| 28 | 15 | П | *Спленне* |
| 29 | 16 | С | Дзяміда |
| **30** | **17** | **Н** | **Мірона** |
| 31 | 18 | П | Івана |

## ВЕРАСЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | А | Андрэя |
| 2 | 20 | С | Самуіла |
| 3 | 21 | Ч | Фадзея |
| 4 | 22 | П | Апанаса |
| 5 | 23 | С | Дароты |
| **6** | **24** | **Н** | **Арсеня** |
| 7 | 25 | П | Ціта |
| 8 | 26 | А | Наталлі |
| 9 | 27 | С | Пімена |
| 10 | 28 | Ч | Анатоля |
| 11 | 29 | П | *Галавасека* |
| 12 | 30 | С | Аляксандра |
| **13** | **31** | **Н** | **Генадзя** |
| 14 | 1 | П | Сямёна |
| 15 | 2 | А | Антона |
| 16 | 3 | С | Домны |
| 17 | 4 | Ч | Майсея |
| 18 | 5 | П | Лізаветы |
| 19 | 6 | С | Архіпа |
| **20** | **7** | **Н** | **Макара** |
| 21 | 8 | П | *Прачыстая* |
| 22 | 9 | А | Якіма і Анны |
| 23 | 10 | С | Паўла |
| 24 | 11 | Ч | Дзмітрыя |
| 25 | 12 | П | Юльяна |
| 26 | 13 | С | Валяр'яна |
| **27** | **14** | **Н** | **Уз.Кр.Гасп.** |
| 28 | 15 | П | Максіма |
| 29 | 16 | А | Віктара |
| 30 | 17 | С | Веры |

## КАСТРЫЧНІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | Ч | Ірыны |
| 2 | 19 | П | Давыда |
| 3 | 20 | С | Астапа |
| **4** | **21** | **Н** | **Данілы** |
| 5 | 22 | П | Макара |
| 6 | 23 | А | Іраіды |
| 7 | 24 | С | Фёклы |
| 8 | 25 | Ч | Сяргея |
| 9 | 26 | П | *Іаана Багас.* |
| 10 | 27 | С | Ігната |
| **11** | **28** | **Н** | **Вячаслава** |
| 12 | 29 | П | Феафана |
| 13 | 30 | А | Міхаіла |
| 14 | 1 | С | *Пакрова* |
| 15 | 2 | Ч | Андрэя |
| 16 | 3 | П | Руслана |
| 17 | 4 | С | Уладзіміра |
| **18** | **5** | **Н** | **Аляксея** |
| 19 | 6 | П | Фамы |
| 20 | 7 | А | Сяргея |
| 21 | 8 | С | Таісы |
| 22 | 9 | Ч | Якава |
| 23 | 10 | П | Севярына |
| 24 | 11 | С | Зінаіды |
| **25** | **12** | **Н** | **Андрона** |
| 26 | 13 | П | Веньяміна |
| 27 | 14 | А | Назара |
| 28 | 15 | С | Яфіма |
| 29 | 16 | Ч | Лонгіна |
| 30 | 17 | П | Андрэя |
| 31 | 18 | С | Лукі |

## ЛІСТАПАД

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **19** | **Н** | **Івана** |
| 2 | 20 | П | Арцёма |
| 3 | 21 | А | Іларыёна |
| 4 | 22 | С | *Каз.Ік.БМ.* |
| 5 | 23 | Ч | Елісея |
| 6 | 24 | П | Афанасія |
| 7 | 25 | С | Марцыяна |
| **8** | **26** | **Н** | **Дзмітрыя** |
| 9 | 27 | П | Несцера |
| 10 | 28 | А | Праскоўі |
| **11** | **29** | **С** | Анастасіі |
| 12 | 30 | Ч | Зіновія |
| 13 | 31 | П | Нікадзіма |
| 14 | 1 | С | Кузьмы |
| **15** | **2** | **Н** | **Альберта** |
| 16 | 3 | П | Іосіфа |
| 17 | 4 | А | Меркурыя |
| 18 | 5 | С | Рыгора |
| 19 | 6 | Ч | Германа |
| 20 | 7 | П | Валерыя |
| 21 | 8 | С | *Міхаіла* |
| **22** | **9** | **Н** | **Антона** |
| 23 | 10 | П | Радзівона |
| 24 | 11 | А | Віктара |
| 25 | 12 | С | Ніла |
| 26 | 13 | Ч | Нікіфара |
| 27 | 14 | П | Піліпа |
| 28 | 15 | С | Гурыя |
| **29** | **16** | **Н** | **Мацвея** |
| 30 | 17 | П | Нікана |

## СНЕЖАНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | А | Платона |
| 2 | 19 | С | Аўдзея |
| 3 | 20 | Ч | Анатоля |
| 4 | 21 | П | *Ув.ПДМ.* |
| 5 | 22 | С | Архіпа |
| **6** | **23** | **Н** | **Аляксандра** |
| 7 | 24 | П | Кацярыны |
| 8 | 25 | А | Пятра |
| 9 | 26 | С | Георгія |
| 10 | 27 | Ч | Рамана |
| 11 | 28 | П | Сцяпана |
| 12 | 29 | С | Парамона |
| **13** | **30** | **Н** | **Андрэя** |
| 14 | 1 | П | Навума |
| 15 | 2 | А | Апанаса |
| 16 | 3 | С | Фёдара |
| 17 | 4 | Ч | *Варвары* |
| 18 | 5 | П | Савы |
| 19 | 6 | С | *Мікалая* |
| **20** | **7** | **Н** | **Антона** |
| 21 | 8 | П | Кірыла |
| 22 | 9 | А | Сцяпана |
| 23 | 10 | С | Міны |
| 24 | 11 | Ч | Данілы |
| **25** | **12** | **П** | Спірыдона |
| **26** | **13** | **С** | Яўгена |
| **27** | **14** | **Н** | **Філімона** |
| 28 | 15 | П | Трыфана |
| 29 | 16 | А | Марыны |
| 30 | 17 | С | Антонія |
| 31 | 18 | Ч | Севасцьяна |